ГОД VI САКАВІК-КРАСАВІК 1952 г. № 47

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

ЗЬМЕСТ




**BOŽYM ŠLACHAM**

**(SUR LA VOIE DIVINE)**

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année VI. № 47. Mars-Avril 1952

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI^e

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1952 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VI<sup></sup>e.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:
**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981,**
**4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:
**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str.**
**East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:
**Mr. Sacko Alexander. 19, Place Hoover, LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Г-і Я. — Наша Краіна. Літаратурная чытанка 300 фр. — 6 шыл. 10 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «**Holas Dušy**» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**
У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**
У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**УВАГА!**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асабісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.
**Рэдакцыя.**

# З Беларускае народнае мудрасьці

Абы грэх, людзі знойдуцца.
Абы ўміраў, а дамавіна будзе.
Абяцанаю кашуляй не нагрэешся.
Ад баязьні мала прыязьні.
Ад Бога не схаваешся — усюды знойдзе.
Адважнаму і Бог памагае.
Ад дабра не ўцякай, благога не рабі!
Адзін Бог багаты. (Бо і багачы наракаюць на нястачы.)
Ад іскры сыр-бор загарыцца.
Адклад ня йдзе ў лад.
Адна бяда ня ходзіць, другую за сабою водзіць.
Адна галава добра, а дзьве яшчэ лепей.
Адно палена і ў печы не гарыць, а два і на ветры ня гаснуць.
Адною рукою вузла ня зьвяжаш.
Ад сьмерці няма зельля.
Апуджаная варона і куста баіцца.
Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца, а бедны сьмяецца, дзе ў багатага дзяецца.
Багацьце — ня шчасьце, а нешта іншае.
Балі ды гулі не аднаго ў лапці абулі.
Бацькі корсткае елі, а на дзяцей аскоміна.
Бачаньнем жаваранка ня зловіш.
Баязьліваму і страх здаецца.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VI. САКАВІК-КРАСАВІК. 1952. № 47

# Вечна новае

**(На Вялікодную тэму).**

У гэтым сьвеце ёсьць зусім нармальным зьявішчам, што кожная матэрыяльная рэч старэецца, зужываецца і нішчыцца. Але ўсюды там, дзе ў матэрыі праяўляецца дзеяньне духовае сілы, руйнацкі працэс да пэўнае ступені абмяжоўваецца. Хто хоць раз уважна назіраў усходзячае сонца, прыглядаўся да тае сьвежае красы і велічнасьці з якою ўздымаецца яно над кругазорам, той мусіў сьцьвердзіць дзіўны факт, што гэтае яснае сонейка, хоць як сьвет старое, заўсёды падымаецца новае як сёньняшні дзень. Падобна прамаўляе да нас краявід вясны: гляньце толькі на яго; ня трэба быць паэтам, каб убачыць у кожнай кветачцы жыцьцярадасны абраз, які можна ўбачыць у усьмехненым абліччы юнака; дзесь бясьсьледна зьнікае з паверхні зямлі васеньняя шэрасьць і зімовая мярцьвяцкая змора. — Але ўва ўсім гэтым відаць аднаўляючае дзеяньне магутнае Божае рукі.

Жыцьцё чалавека мае крыху адменныя правы ад матэрыяльнае прыроды, бо і сам чалавек займае асобнае мейсца ў прыродзе. Цела чалавека матэрыяльнае і як такое падлягае зьнішчэньню, але людзкая душа духовая — гэта іскра Божая, якая ніколі ня згасьне. Яна мае свой пачатак ад Бога і да Яго мусіць зноў вярнуцца. А дачаснае жыцьцё на тое дана чалавеку, каб душа ў віры змаганьня не паддалася зводным матэрыяльным прынадам, але свабодна і дабравольна выказалася за нябеснымі вечнымі вартасьцямі.

Ня лёгкае гэта заданьне і не без барацьбы адбываецца яно. Ці трэба яшчэ гаварыць аб цяжкасьцях гэтае барацьбы, калі кожны з нас сам перажывае яе? Наша дачаснае жыцьцё праходзіць на зямлі, дзе цела мае цэлую армію саюзьнікаў. Дзеля гэтага для забесьпячэньня перамогі душа мусіць мець адпаведную помач. Такую помач дае сам Бог у форме свае ласкі. У часе сьвят ёсьць асаблівая нагода атрымаць тую ласку. І ў гэтым палягае сэнс сьвяткаваньня, каб скарыстаць асаблівую збаўчую нагоду ды ўзбагаціць свае духовыя сілы нябеснаю моцаю.

Хто ў сваім жыцьці хоць раз адсьвяткаваў пабожна сьвяты, той сапраўды перажыў вясну духовага жыцьця; ён яе ніколі не забудзецца. Таму як заўсёды для чалавека ёсьць мілым прыход вясны, падобна для хрысьціяніна радаснымі ёсьць вялікія сьвяты. Яны адны за другімі прыходзяць і мінаюць штогод, але сьвяточны настрой пасьля іх, прынамся як успамін аб нечым нявымоўна высокім і радасным, на доўга астаецца ў душы чалавека і ўпрыгожвае яе. Як на пустыні оазіс для змучанага падарожніка, так для верніка — сьвята. Дзеля гэтага сьв. Царква і ўстанавіла сьвяты, каб кожны чалавек мог часта карыстаць з іх для аднаўленьня свайго духовага жыцьця.

З усіх жывых сатварэньняў на Зямлі толькі адзін чалавек мае сьвяты. Жывёлам сьвяты непатрэбныя, бо яны тут на зямлі ў сябе ўдома, тут іх жыцьцё пачынаецца, тут і канчаецца; чэрцям сьвята няма, бо яны ўжо на векі страцілі сваё шчасьце; ангелам сьвята непатрэбна, бо яны ад вякоў прайшлі час пробы і насалоджваюцца вечным нябесным шчасьцем — толькі чалавек праходзіць свой дачасны шлях і мусіць весьці барацьбу, каб асягнуць сваю апошнюю мэту — неба. І вось у часе гэтае барацьбы асабліва Вялікоднае сьвята зьяўляецца тым мамэнтам, калі Хрыстос быццам сам з неба адзываецца да чалавека: «Глядзі, Я за цябе перацярпеў мукі, паніжэньне і сьмерць, для цябе перамог сьмерць, ці можаш яшчэ сумнявацца, што дам табе ўсякую патрэбную помач, каб і ты вышаў пераможцам у тваім змаганьні са злом, ды прышоў да Мяне?!»

У гэтым увесь чар Вялікодных сьвятаў, што яны ўсьведамляюць чалавеку ўсю веліч перамогі, якую можа асягнуць людзкая натура, калі будзе дзейнічаць паводля Божае волі. Бо-ж супраць Бога ня можа ўстаяцца ніякая сіла, ніякая злоба. Як штодзенна ўсходзіць сонца, як штогод вяртаецца вясна, так заўсёды перамагае Божая ўсемагутнасьць усякую людзкую і пякельную злобу.

Ад часу, калі Хрыстос пасьля мукаў і сьмерці ўваскрос, ад тады і аж да сканчэньня вякоў людзі маюць вявычарпальную крыніцу заўсёднага аднаўленьня сваіх духовых сілаў у імкненьні да апошняе мэты жыцьця і прычыну вялікае радасьці. І могуць, і павінны карыстаць з яе.

**А. Леў.**

# Праўда і няпраўда

Праўда нароўні з дабром і красою ёсьць неабходымі для шчасьця чалавека, дзеля гэтага чалавек імкнецца да іх усею істотаю свае душы і балюча адчувае расчараваньне, калі ў сваім імкненьні часам знаходзіць нешта адваротнае. Асабліва моцна адчуваецца нястача праўды, асабліва калі яе супраціўнасьці: крыўда, хлусьня, мана, няпрыўда і крывадушнасьць сустракаюцца ў дачасным жыцьці так часта, што «хоць іх касою касі», тады і цярпеньні чалавека стаюць штораз большымі.

У гэткім палажэньні паўстае самазразумелае пытаньне: калі чалавек імкнецца да праўды і прыкра адчувае няпраўду з усімі яе варыянтамі, дык якім чынам агулам на гэтым сьвеце не палажылі канца няпраўдзе?

Ёсьць некалькі прычынаў гэтага жалюгоднага стану. Над гэтым пытаньнем шмат разводзіліся філязофы і давалі розныя адказы з розных пунктаў гледжаньня, тут аднак, не ўвайходзячы ў доўгія і сухія развжаньні, зьвернем увагу толькі на некаторыя важнейшыя прычыны.

Найгалаўнейшаю прычынаю распаўсюджаньня няпраўды ў сьвеце ёсць грэх, а ў сьлед за ім злачыннасьць. Ад калі людзі трапілі ў палон граху, ад тады адчынілі сваю душу для няпраўды. Дзеля гэтага пасьля ўпадку ў грэх магчымыя такія зьявішчы, аб якіх кажа ап. Павал: «Бо добрага што хачу, не раблю, а благое, якога не хачу, раблю. Калі-ж раблю тое, чаго не хачу, ужо ня я раблю гэта, але грэх, што жыве ўва мне» (Рым. VII, 19-20). Калі так кажа аб сабе апостал, маючы вялікую ступень сьвятасьці, дык што могуць сказаць іншыя людзі!? У іх адзін раз учыненая няпраўда разрастаецца як злое зельле, якога яны баяцца вырваць. «Бо кожны, хто робіць дрэннае ненавідзіць сьвятла і ня йдзе да сьвятла, каб ня выявіліся яго ўчынкі, бо яны дрэнныя, а хто чыніць праўду, ідзе да сьвятла» (Ів. III, 20-21). Ад вякоў ведама, што «хлусьлівы язык ня любіць праўды» (Прып. XXVI, 28).

Калі яшчэ глыбей углянуцца ў гэты сумны факт, дык можна сьцьвердзіць, што грэх быццам калечыць пазнавальныя здольнасьці чалавека. У гэткім стане чалавек бачыць дрэнныя насьледкі няпраўды ў асабістым і грамадзкім жыцьці, але толькі аднабока, дзеля гэтага часам зводзіць сябе думкаю, быццам у некаторых выпадках няпраўда і хлусьня можа прынесьці яму нейкую асабістую карысьць, або прынамся супакой. Колькі людзей сёньня сьледам за Пілатам у аблічы хлусьні з насьмешкаю адзываюцца: «Што ёсьць праўда?» (Ів. VIII, 8) і не чакаючы адказу, адыходзяць ад праўды, каб здацца пад напорам злобы, бяручы на сваё сумленьне нявінную кроў і ўмываючы замест свайго сумленьня, свае рукі.

Для ўнікненьня ўсякіх непаразуменьняў, падчыркваем, што разумовая дзейнасьць праз грэх ня нішчыцца, наадварот, яна можа быць вельмі інтэнзыўнай, але мае ў сабе штосьці фатальнае і самазьнішчальнае. Не дарма кажуць, што грэх і ярасьць асьляпляе чалавека. Ап. Павал аб гэткіх людзях кажа, што яны «заўсёды вучацца, ды ніколі ня могуць дайсьці да пазнаньня праўды... людзі з папсаваным розумам, невукі ў веры» (II. Тым. III, 7-8).

Шмат прычыняюцца так-жа да пашырэньня няпраўды: забудзькавастасьць, духовае гультайства, самахвальства і пад. — яны менш злонамераныя, як папарэднія прычыны, але ў выніках могуць быць аднолькава шкодныя.

Як-бы аднак не распаўсюджвался няпраўды і крыўда, сам факт існаваньня праўды на сьвеце не падлягае сумніву, ён так ясны і самазразумелы кожнаму, што нават найбольшыя лгуны яго ня могуць запярэчыць і самі стараюцца прыбраць сваю хлусьню, хоць у повідную форму праўды. Ап. Павал трапна называе іх людзьмі, «што маюць праўду ў няпраўдзе» (Рым. I, 18). А з гэтага сам сабою напрошваецца высновак: калі няпраўда хаваецца пад покрышку праўды, дык тым самым сьведчыць аб сваёй немачы і магутнасьці праўды.

Народная мудрасьць кажа, што на сьвеце ёсьць тры рэчы, на якія чалавек ня можа глянуць, ня прыжмурыўшы вачэй: сонца, сьмерць і праўда. З іх праўда вырозьніваецца тым, што яна аднолькава няўмольная, як сьмерць, як сонца ясная і як сонца для жыцьця, так яна неабходная для ўпарадкаваных адносін між людзьмі.

Бадай-што адною з найгоршых памылак у жыцьці чалавека ёсць тое стараньне, шукаць помачы ў хлусьні і няпраўдзе, калі часам некаму здаецца, што з нейкіх прычынаў, праўда можа быць няпрыемнай. Праз хлусьню чалавек траціць у сабе ўсе тыя асновы, на якіх апіраецца давер самога да сябе і адначасна бярэ сам на сябе заўсёдны страх, што выкрыецца ягоная хлусьня і ягоная нягоднасьць. Наадварот, сьведамасьць праўды дадае чалавеку гарту волі і ўпэўненасьці дзеяньня. Аб гэтым вобразна кажа псальмапевец: «Як шчытам акружыць цябе праўда Яго (Божая) і не збаішся начнога страху» (Пс. XC, 5). Кароль Салямон з практыкі кажа: «міласэрнасьць і праўда вартуюць валадара» (Прып. Сал. XX, 28). Дзеля гэтага, не зважаючы на сваю малую колькасьць, першыя хрысьціяне маглі з перамогаю супрацьставіцца ўсёй аграмаднай Рымскай імпэрыі, бо былі сьведамыя, што маюць праўду. Ап.

Павал сапраўды па-вайсковаму забражае першых хрысьціян, заклікаючы іх да бадзёрасьці: «Дык станце, падперазаўшы вашы паясьніцы праўдаю і апрануўшы броню праведнасьці» (Эфэс. VI, 14). Хто ўспрыймаў гэты заклік і выконваў яго, тады спраўджваліся на ім словы Хрыста: «Пазнайце праўду і праўда вызваліць вас» (Ів. VIII, 32). Пэўна-ж гэта ня станецца ані хутка, ані лёгка, наадварот, часта за праўду трэба цярпець, цяжка змагацца і несьці вялікія ахвяры, але перамога бязумоўна астаецца на баку праўды.

Аднсона гэтага цьверджаньня хтосьці можа зрабіць неадну засьцярогу, каб іх папярэдзіць, прыпамінаем, што жыцьцё чалавека на зямлі, гэта толькі пачатак жыцьця, а ўласьціва чалавек прызначаны да прышлага вечнага жыцьця і там найбольш ясна выявіцца перамога і перавага праўды над няпраўдай. Але ўжо і ў дачасным жыцьці ёсьць нязьлічаныя прыклады, як праўда перамагае няпраўду дзякуючы сваёй нутранай сіле, не зважаючы на перавагу розных варожых сілаў. Калі-ж здараецца наадварот, калі перамагае няпраўды, дык жыцьцё замяняецца ў мучэньне, стаецца такім цяжкім, што разважаючы над ім кожны мусіць зрабіць наймацнейшую пастанову: ўсімі сіламі змагацца за праўду.

Чым больш дзе ў грамадзтве ёсьць у пашане праўда, там тым больш ёсьць свабоды, задаволеньня і радасьці, бо праўда не патрабуе да свайго падтрыманьня такіх паслугачоў, як прымус, тэрор і пад. Дзе-ж няпраўда прыходзіць да голасу, там адразу зьяўляецца насільства, страх, прыгнобленьне і паняволеньне — жыцьцё стае кашмарам. За прыкладамі хадзіць далёка няма патрэбы, гісторыя Беларусі з апошніх стагодзьдзяў можа быць жывым прыкладам, як жывецца народу агулам і кожнаму чалавеку ў паасобнасьці пад панаваньнем няпраўды. Гэта зьдзек і няпраўда прычыніліся да паўстаньня тых сумных беларускіх песень, аб якіх пісаў паэт: «А як песьня паняецца, колькі ў песьні той нуды, уцякаў-бы бег здаецца, сам ня ведаеш куды!» Але бяда, што тады ўцякаць няма куды. Фр. Багушэвіч у вершы «Праўда» сьцьвердзіўшы сумны факт, што ўладумаючыя асобы пахавалі праўду, зьвяртаецца да Бога з роспачным заклікам». «Ой, Божа-ж, мой Божа, нашто я радзіўся?!» Яшчэ больш роспачны абраз малюе Я. Купала ў паэме «Адвечная песьня». Цень беларускага селяніна ўстае з магілы і, паслухаўшы вестак з роднае вёскі ў палоне няпраўды, кліча: «Гэй, расчыніся нанова магіла, бо страшней цябе людзі і сьвет!»

Сумныя гэта і прыгноблюючыя абразы, якія падыктавала паэтам цяжкае жыцьцё народу пад панаваньнем няпраўды, але да іх трэба дадаць, што гэтыя абразы паходзяць яшчэ з таго часу, калі была хоць нейкая магчымасьць выказаць сваё цярпеньне, выліць свой жаль у песьні, ці ў слове і тым самым часткава зьменшыць яго. — Гэта агульналюдзкая азнака, што слова, якім можна выказаць сваё цярпеньне, душу коіць, раны гоіць, таму напр. жыды ў часе Бабілёнскае няволі шукалі палёгкі свайго цярпеньня ў чытаньні сумнае кнігі прар. Ераміі, у якой між іншым кажацца: «О, хто дасьць галаве маёй воду і вачом маім — крыніцы сьлёз! Я плакаў-бы дзень і ноч аб зьнішчаных дочках майго народу» (Ерэм. IX, 1). Але паняволюючыя ўлады на Беларусі рабілі ўсё магчымае, каб там не адазваўся ерамееў голас. Цяпер-жа на Беларусі няпраўда мае абсалютную ўладу, дыктатура няпраўды даходзіць да сваіх вяршыняў. Як у гэтых умовах выглядае жыцьцё? Народ змушаюць услаўляць сваіх катаў, сьпяваць на іх чэсьць гымны; услаўляць няволю, як найлепшую волю; бяду і цярпеньне называць шчасьцем, ворагаў называць сваімі найлепшымі прыяцелямі і наадварот; рэлігійнае жыцьцё зусім выкідаюць з абсягу зацікаўленьня, здушваюць ўсякую самастойную думку і змушаюць паўтараць толькі наказанае з гары; галечу называюць багацьцем, розную дурнату называюць найвышэйшаю мудрасьцю і да гэтага ўсяго кожны мусіць быць заўсёды гатовым на найгоршыя кары за найменшае праяўленьне свайго нацыянальнага аблічча і ня выказаць нават найменшым спосабам свайго незадаваленьня і цярпеньня — вось, коратка кажучы, той абраз, дзе няпраўда мае неабмежаваную ўладу.

Тут неабходна заўважыць, што хлусьня кожнага чалавека; асабліва хлусьня ў вуснах грамадзкіх дзеячоў, уласьціва кажучы, вядзе якраз да такога абсалютнага панаваньня няпраўды.

Як прамаўляе да нас гэты абраз? Бязумоўна, што да розных людзей ён прамаўляе па рознаму, але агулам хто возьме пад увагу вышэй успомненыя прыродныя і напрыродныя прычыны, узглядніць мэты дачаснага і прышлага жыцьця чалавека і ўсьведаміць тую няволю, якую спрычыняе няпраўда, дык хіба-ж ня будзе доўга застанаўляцца, каб зрабіць моцную пастанову: што, пачаўшы ад самога сябе, далажыць усіх сілаў, каб у прыватным і грамадзкім жыцьці затрыумфавала праўда.

**А.**

# СЬВЯТОЕ ПІСАНЬНЕ

(Працяг 2-і да тэмы **«Рэлігійныя крывулі нашае інтэлігэнцыі»**)

Да гэтага часу ў беларускай рэлігійнай літаратуры няма ніводнае паважнейшае навуковае працы аб сьв. Пісаньні, — гэта вялікая нястача ў рэлігійным жыцьці і тымбольш адчувальная, што

ў нас масава распаўсюджвалася бальшавіцкая бязбожная прапаганда, якая намагалася на ўсе лады «даказваць», што Біблія гэта басьні. Гэта зразумела не магло астацца бяз пэўнага ўплыву на сьведамасьць людзей нават добрае волі, калі яны ў беларускай літаратуры не маглі знайсьці адказу, ані нават выясьненьня на закіды бязбожнае прапаганды.

Але агульна бяручы, літаратура адносна сьв. Пісаньня ёсьць надзвычайна багатая, дзеля гэтага неабходна засьцерагчыся, што ў рамках часапіснага артыкулу магчыма парушыць толькі вельмі дробную частку важнейшых пытаньняў зьвязаных з сьв. Пісаньнем. Такімі пытаньнямі лічацца:

а) Паняцьце, назоў і падзел сьв. Пісаньня.

б) Натхнёнасьць і непамыльнасьць сьв. Пісаньня.

в) Крытэрыі распазнаньня натхнёных кнігаў.

г) Кананічныя кнігі і апокрыфы.

д) Арыгінальная мова і пераклады сьв. Пісаньня.

е) Аб карысным чытаньні сьв. Пісаньня.

### Паняцьце, назоў і падзел сьв. Пісаньня.

Сьвятое Пісаньне — гэта зборнік такіх кнігаў, якія—паводля азначэньня Ватыканскага сабору—напісаны пры натхненьні сьв. Духа, маюць аўтара самога Бога і як такія былі пераданыя Царкве.

Гэты зборнік абымае 73 кнігі. Іх напісалі розныя аўтары, у розных часох (між XIII в. да Хр. і пач. II в. па Хр.) і рознымі мовамі (гэбрайскай, арамайскай і грэцкай).

Усе гэтыя кнігі маюць дзьве істотныя азнакі: яны ёсьць натхнёныя і як такія былі пераданы Царкве.

Што да назову, дык можна ўжываць і сапраўды ён ужываецца ў патройным выглядзе: сьв. Пісаньне, Біблія, Стары і Новы Запавет.

Назоў «Пісаньне» ўжываў Сам Хрыстос (Ів. V, 39). Ад часоў ап. Паўла (пар. Рым. I, 2) яно называецца «сьвятым», або нават «Божым» Пісаньнем, таму, што яно напісана дзякуючы Божаму натхненьню і што гаворыць аб вялікіх сьвятых рэчах ,паказвае шлях да сьвятасьці.

Біблія — слова грэцкага паходжаньня і першапачаткава азначала агулам кніжку, потым зборнік натхнёных кнігаў.

Стары і Новы Запавет — назоў прыняты пад уплывам ап. Паўла (II Кар. III, 14) і распаўсюджаны ў лацінскім сьвеце ад часоў Тэртуліяна. Слова «Запавет», пагэбрайску «бэріт», пагрэцку «діэтэкэ», палаціне «тэстамэнтум» — адносіцца да сьв. кнігаў таму, што старадаўны запавет Бога з жыдоўскім народам і запавет Хрыста з усім людзтвам ёсьць быццам дагаворам. Каб чалавек мог асягнуць мэту свайго жыцьця, ён павінен выканаць цэлы рад умоваў, падыктаваных Богам. Беларускае слова «Запавет» больш адносіцца да Самога Бога і адразу скіроўвае думку да таго, хто мае аўтарытэт і хто мае права нешта дыктаваць.

Сьв. Пісаньне становіць адзіную суцэльнасьць, але з даўных часоў яго дзеляць: лягічна, літургічна і схэматычна.

Жыды прымаюць толькі 39 кнігаў напісаных гэбрайскаю моваю, абмяжоўваючы іх штучна да ліку 22, бо гэбрайскі альфабэт мае толькі 22 літары. Усе кнігі яны дзеляць на тры групы: права, прарокаў і гагіёграфічныя. Каталіцкая Царква прымае апрача 39 вышэйуспомненых кнігаў Старога Запавету, яшчэ 7 іншых кнігаў і цэлы Новы Запавет.

Кнігі, адносна прыналежнасьці якіх да сьв. Пісаньня ня было ніякае засьцярогі, называюцца протоканонічнымі, іншыя кнігі, напісаныя так-жа пры натхненьні сьв. Духа і аднолькава важныя, як папярэднія, але якія ў канон сьв. Пісаньня былі ўпісаны пазьней, называюцца дэўтаракананічнымі. У Старым Запавеце да дэўтаракананічных кнігаў залічаюцца кнігі: Тобіі, Юдыты, Прамудрасьці, Эклезіяста, Баруха, I і II Макабэяў, Эстэры 10, 4-16, 24, Данііла 3 24-80, 13, 14. У Новым Запавеце: Пасланьне ап. Паўла да Жыдоў, II Пасланьне ап. Пятра, II і III Пасланьне ап. Івана, Пасланьне ап. Юды і Апокаліпсіс.

Ад XIV в. усе кнігі лёгічна дзеляць на: гістарычныя, дыдактычныя або павучальныя і прарокаў. Кнігі Новага Запавету ад даўных часоў дзялілі на Эвангельле і Апостала, але ў сярэднявеччу прынялі такі-ж падзел, як і адносна Старога Запавету.

Для літургічнага ўжытку калісьці жыды выкарыстоўвалі ўвесь Псалтыр і ўсе пяць кніг Майсея, падзяліўшы іх на 167 частак, якія прачытваліся на працягу кожных трох гадоў. Іншыя кнігі да літургічнага ўжытку карысталіся толькі часткава.

Хрысьціяне ад першых вякоў прынялі звычай чытаць на багаслужэньнях сьв. Пісаньне як Старога, так і Новага Запавету. Гэтак паўсталі нядзеляшнія і сьвяточныя Эвангельлі і Апосталы.

Цяпер агульна прынята, што кожная кніга сьв. Пісаньня дзеліцца на разьдзелы, а разьдзелы на вершы. Гэткі падзел знаходзіцца цяпер і ў гэбрайскім тэксьце. Вось-жа трэба ведаць, што аўтарам падзелу на разьдзелы ёсьць францускі кардынал Лянгтон († 1541), аўтарам-жа падзелу протоканонічных шнігаў Ст. Запавету на вершы ёсьць дамініканін сьв. Паньіно († 1541), а іншыя кнігі падзяліў на вершы Робэрт Сьцяпан. Як бачым, падзел сьв. Пісаньня на разьддзелы і вершы быў зроблены зусім прыватна, таму і павага гэткага падзелу мае толькі практычную вартасьць.

### Натхнёнасьць і непамыльнасьць сьв. Пісаньну.

Натхненьне — палаціне «інспірацыё» — разумеецца пэўнае Божае дзеяньне на чалавека. Калі гаворым аб натхненьні ў сьв. Пісаньні, дык разу-

meem такое надпрыроднае дзеяньне Бога на чалавека, якім Бог выяўляе праз чалавека тое, што Сам хоча. Калі натхненьне адносіцца да самае мовы ці прамовы, называецца прарочым, калі да пісаньня — біблійным.

У біблійным натхненьні Бог парушае розум і волю чалавека для прыняцьця і выказаньня нейкае думкі. Натхнёны аўтар ня ёсьць толькі пасыўнаю прыладаю ў часе пісаньня, ён хоць і піша пад Боскім уплывам, але астаецца нармальна інтэлігэнтны і вольны, захоўваючы ўсе свае асаблівасьці характару мовы і стылю. Пры ўсім аднак гэтым чалавек стаецца толькі паслушным выканаўцам, а фактычным аўтарам ёсьць Бог. У гэтым ёсьць істота натхненьня.

Папа Леў XIII падае такое апісаньне натхненьня: «Яно ёсьць надпрыроднай моцай, якою Бог пабудзіў і парушыў сьвятых аўтараў да пісаньня і такім чынам прысутнічаў пры іх, што ўсё тое і толькі тое, што Ён сам загадаў, каб яны правідлова яго зразумелі і верна запісаць хацелі, і належна з непамыльнай праўдай выказалі...»

Адгэтуль вынікае: а) усё тое, што ёсьць аўтэнтычным у кнігах сьв. Пісаньня, выходзіць ад Бога, як ад аўтара. Дык зусім лягічна можам цьвердзіць, што сьв. Пісаньне ёсьць Божым словам да людзей. б) Але Божы ўплыў не зьмяняе і не нарушае іўдывідуальных прыметаў сьвятых аўтараў, дзеля гэтага можам гаварыць аб асаблівасьцях кампазіцыі, мовы і стылю аўтараў. в) Натхненьне не абмяжоўваецца толькі да некаторых праўдаў сьв. Пісаньня, ці некаторых часьцей, але расьцягваецца на ўсе аўтэнтычна напісаныя аўтарам сказы. г) Таму, што сьв. Пісаньне ёсьць Божым словам да людзей, яно ёсьць вольнае ад памылак, ад няпраўды, яно непамыльнае, але гэта не адносіцца да перапісчыкаў, якія могуць мыляцца, як кожны чалавек.

Таму аднак, што пры натхнёным пісаньні індывідуальнасьць аўтара астаецца, трэба лічыцца з мовай яго часу, з абставінамі ў якіх жыў ён сам і яго народ, з дапаможнікамі, якімі карыстаўся пры пісаньні, дзеля гэтага для пазнаньня і разуменьня сьв. Пісаньня трэба шмат і глыбокіх студыяў. Як-жа неразумна выглядае цьверджаньне тых, што ўважаюць дастатковым тлумачыць і выясьняць сьв. Пісаньне так, як каму да-спадобы. Гэткі шлях — гэта шлях да паўставаньня розных сэктаў, да зацямняньня, а не да выясьняньня сьв. праўдаў.

### Крытэрыі распазнаньня натхнёных кнігаў.

Але вось прыходзім да вельмі важнага пытаньня: якім чынам можна быць пэўным, што кнігі сьв. Пісаньня сапраўды натхнёныя? Адкуль можна ведаць гэта?

Адказы на пастаўленыя пытаньні ёсьць розныя. Пасьлядоўнікі Лютара кажуць, што кнігі сьв. Пісаньня пазнаюцца з пэўнага ім асаблівага «прысмаку», або з «боскага паху». Іншыя пратэстанты цьвердзяць, што даволі ўдумацца ў зьмест сьв. Пісаньня, зьвярнуць увагу на веліч і павагу праблемаў, якія яны парушаюць, на прароцтвы, якія споўніліся, або маюць споўніцца — усё гэта мела-б прамаўляць за тым, што сам чалавек, бяз Боскага натхненьня ня мог-бы напісаць падобных рэчаў. Кальвіністы і піетысты цьвердзяць, што аб Боскім натхненьні кніг сьв. Пісаньня яны ведаюць з беспасрэднага натхненьня сьв. Духа.

Усе вышэй пералічаныя крытэрыі зусім неабгрунтаваныя і фальшыя і як такія іх адкідае Каталіцкая Царква. Бо і сапраўды, ці-ж мала ёсьць пабожных кнігаў, якія ўзрушаюць сэрца, пакідаюць па сабе «боскі пах», аднак ніколі ня лічацца за натхнёныя сьв. Духам? Адзіным праўдзівым вырашальным крытэрыем Боскага аўтарства кніг сьв. Пісаньня ёсьць Боскае сьведчаньне, перахаванае ў традыцыі і пераказанае непамыльным навучаньнем Царквы. Яна з усёю пэўнасьцю, роўнаю пэўнасьці ў веры дае магчымасьць усім людзям пазнаць натхнёнасьць кніг сьв. Пісаньня.

Заўважым, што часткава аб натхнёнасьці сьв. кнігаў ёсьць выразныя сьведчаньні ў самых-жа кнігах. Прыкладам Хрыстос некалькі раз пацьвердзіў аўтэнтычнасьць кнігаў Ст. Запавету: «Калі-б вы верылі Майсею, дык верылі-б і Мне, бо-ж ён пісаў аба Мне» (Ів. V, 46). Аднак цэласьць сьв. Пісаньня мы прымаем дзеля традыцыі, аўтэнтычна і непамыльна перахаванае ў Царкве. Гэта неабходна падчыркнуць з асаблівым націскам, таму, што шмат хто з людзей пісаў кнігі і для наданьня ім большае павагі, паклікаўся на Боскі аўтарытэт. Гэтак паўсталі апокрыфы, коран і інш.

Сьв. Кнігі гэта скарбніца веры, вечных і непамыльных праўдаў. Ккюч да гэтае скарбніцы павінен быць у руках праўдзівае Божае ўстановы, якою ёсьць Каталіцкая Царква. Калі-б ня было непамыльнага навучаньня Царквы, мы ня мелі-б ніякае змогі пазнаць, якія кнігі сапраўды натхнёныя, а якія не. Але з волі Божае ёсьць Царква і ўсюды чуваць яе навучаючы голас. Таму той, хто ўважае, што Біблія ёсьць звычайным людзкім творам, магчыма гэніяльным, вельмі памыляецца ў сваім паглядзе. Гэтым самым ён паказвае, што не разумее таго надпрыроднага сэнсу, у якім усё знаходзіць сваё глыбокае выясьненьне.

У сьв. Пісаньні ёсьць некаторыя мейсцы, аб якіх кажацца, што яны цяжкія для зразуменьня, але калі хто сустрэне падобныя мейсцы, дык павінен шукаць іх выясьненьня ў фаховых вучоных біблістаў, у прадстаўнікаў Царквы, а не ў людзей прыпадковых і безадказных. Калі хто хворы, дык зьвяртаецца да лекара, а не да шаўца, ці столяра.

## Кананічныя кнігі і апокрыфы.

Пералічаныя ў папярэднім разьдзеле азнакі сьв. Пісаньня: натхнёнасьць, Боскае аўтарства і перахаваньне ў Царкве коратка азначаецца адным словам — кананічнасьць. Кнігі, якія маюць успомненыя азнакі, называюцца кананічнымі.

Канон — слова грэцкага паходжаньня (канонос) і даслоўна значыць мерку з дрэва, дручок, у далейшым сэнсе: правіла, норма, мерка, правіла дзеяньня. Сёньня слова «канон» вельмі распаўсюджанае. Ёсьць канон у заканадаўстве, ў мастацтве, у багаслужэньні.

Аб кананічнасьці якоесь кнігі вырашае Царква, бо яна адзіная мае да гэтага Богам дане права і абавязак. Вучоныя могуць дасьледваць сьв. кнігі, але вырашаць пытаньне іхняе кананічнасьці яны ня могуць, бо апошняе слова ў гэтай справе належыць да Царквы, аб гэтым сьведчыць і тэорыя і практыка.

Ведама, што ўжо ў Старым Запавеце жыдоўскае духавенства якнайбольш старанна сьцерагло сьвятыя кнігі, не мяшаючы іх з іншымі. Аб гэтым ёсьць выразныя і шматлікія сьведчаньні ў сьв. Пісаньні. Ды ня толькі іх сьцераглі, але адносіліся да іх з асаблівую ўважлівасьцю.

Хрыстос сваею павагаю, а сьледам за Ім і апосталы пацьвердзілі толькі тое, што было прынята ў жыдоў. Ясна кнігі Новага Запавету мелі сваю ўласную традыцыю, незалежную ад жыдоў.

Канон сьв. Пісаньня ўсталена не адразу. У трэцім і чацьвёртым веку па Хрысьце падчас зьяўленьня т. зв. вялікіх ерасяў, былі паважныя спрэчкі аб кананічнасьці некаторых кнігаў, але якраз гэта прычынілася да ўсталеньня канону ўжо ўканцы IV стаг. на памесных сынодах, так на Усходзе, як і на Заходзе. Але канчаткова і раз назаўсёды азначыла Царква канон сьв. Пісаньня на Трыдэнцкім саборы 8 кастрычніка 1546 г. У датычнай пастанове гаворыцца, што: «Сабор... сьледуючы за прыкладам праваслаўных айцоў, з аднолькавай набожнасьцю і пашанай прымае і паважае ўсе кнігі як Старога, так і Новага Запавету, бо-ж абодвых запаветаў аўтарам ёсьць адзін і той-жа Бог, гэткімі самымі ёсьць і традыцыі, якія адносяцца да веры і абычаяў...» Да пастановы далучаецца сьпісак кананічных кнігаў. Тут варта зьвярнуць увагу, што сабор найвыразьней падчырквае, што ён пацьвярджае старую трыдыцыю адносна сьв. Пісаньня.

Пратэстанты, а пасьля пад іхным уплывам некаторыя праваслаўныя ерархі і пісьменьнікі самавольна павыкідалі з канону сьв. Пісаньня некаторыя кнігі. Такая самаволя зразумелая там, дзе няма аднаго кіравецтва, аднае галавы.

У Каталіцкай Царкве той, хто сьведама адкідае хоць адну кнігу з сьв. Пісаньня, ня можа больш лічыцца каталікам.

Успомніўшы тут аб праваслаўных, неабходна яшчэ дадаць, што афіцыяльна Праваслаўная Царква адносна канону сьв. Пісаньня трымаецца пастановы Трулянскага сыноду, або інакш Пята-Шостага сабору (692), які падае некалькі канонаў, большасьць з іх згаджаецца з канонам Трыдэнцкага сабору. Але ўканцы XVII стаг. пад уплывам аўтараў: Захара Гэргануса, Кірыла Люкарыса і Мітрафана Крітопулюса, якія моцна залежалі ад пратэстанцкіх аўтараў, пачынае шырыцца між праваслаўнымі пратэстанцкі пагляд на канон сьв. Пісаньня.

Супраць пратэстанцкага ўплыву выступалі кіеўскія багасловы: Тэофілякт Лопатынскій, Сьцяпан Яворскі, а за імі Дзьмітры Растоўскі — яны баранілі цэласьці прынятага канону, але пры двары расейскага цара Пятра дзейнічаў моцна спратэстанізаваны багаслоў Тэофан Прокоповіч і яго вучні Ірынэй Фалькоўскі і Сыльвэстар Лебедінскі, якія сьледам за пратэстантамі залічалі да апокрыфаў кнігі: Тобіі, Юдыт, Сіраха, Прэмудрасьці, Баруха, 3 і 4 Ездры, Макабэяў Эстэры і часьць Даніілa. Пратэстанцкія пагляды Пракаповіча потым увёў у катэхізм Філарэт Маскоўскі 1836 г. адгэтуль яны пашырыліся ў румынаў, сэрбаў і баўгараў. Уканцы XIX в. Праваслаўная Царква была зьвярнулася больш да традыцыі сьв. айцоў, але гэты паварот спыніла сусьветная вайна.

Гаворачы аб кананічных кнігах, як супрацьстаўленьне да іх ужо ня раз ўспаміналіся апокрыфы. Што гэта за кнігі? Грэцкае слова «апокрыфос» азначае штосьці закрытае, схаванае, сакрэтнае. Таму ў старадаўных пісьменьнікаў апокрыфамі называліся тыя творы, якія апісвалі таёмныя навукі, даступныя толькі нейкаму кружку даверанных людзей.

У айцоў Царквы, апокрыфамі называюцца кнігі нявпэўнага паходжаньня, якіх аўтар ня быў ведамы, або быў прыхаваны пад іменем іншага аўтара. Часам апокрыфамі называліся гэрэтыцкія кнігі, або нават кнігі пырзначаныя для прыватнага карыстаньня.

Біблійныя апокрыфы можна азначыць так: гэта творы няведамых аўтараў, паводля формы, а нават зьместу падобныя да кнігаў сьв. Пісаньня, але Царквою ня ўведзеныя ў канон.

Ёсьць апокрыфы Старога і Новага Запавету. Усе яны паўсталі дзеля дапаўненьня сьв. Пісаньня, або каб правесьці ў жыцьцё пэўныя багаслоўскія думкі (найчасьцей гэрэзіі), а часам проста каб заспакоіць людзкую цікавасьць, выдумоўваюць падрабязнасьці з жыцьця патрыярхаў, Хрыста, Марыі, і інш.

Зьмест апокрыфаў мае розную вартасьць. Дзеля іх старадаўнасьці, часам ў іх можна знайсьці каліва гістарычнае праўды, але зьмешанае з паважнымі фантастычнымі дадаткамі.

Лік апокрыфаў даволі значны; адносна Старо-

га Запавету іх ёсьць каля 15, і адносна Новага Запавету больш 20.

Усё гэта сьведчыць, як сапраўды ёсьць важным устанаўленьне Царквою канону сьвятых кнігаў, каб чытачы мелі пэўнасьць, што чытаюць слова Божае, а ня людзкую выдумку.

**Арыгінальная мова і пераклады сьв. Пісаньня.**

Першапачаткава кнігі сьв. Пісаньня былі напісаны ў трох мовах: гэбрайскай, арамайскай і грэцкай. Пагрэцку напісаны ўвесь Новы Запавет з выняткам Эвангельля ап. Матэя, а са Старога Запавету кнігі Прамудрасьці і II Макабэяў.

Паарамайску напісаны часьць кнігі прар. Данііла (2, 4-17), Ездры (4, 8-6, 18; 7, 12-27), Ерэміі (10, 11) і з Новага Запавету Эвангельле ап. Матэя. Рэшта кніг Ст. Запавету напісана пагэбрайску.

Гэбрайская і арамайская мовы належаць да сям'і сэміцкіх моваў. З іх гэбрайская мова лічыцца як далейшае разьвіцьцё старое хананэйскае мовы, якою карысталіся жыды ў зямлі Ханаан перад прыходам туды гэбрайскага племені (каля 2093 г. да Хр., калі Абрагам перасяліўся з Ур у Ханаан).

Арамайскаю моваю карысталіся жыхары Сырыйскае пустыні. Найстарэйшыя памяткі арамайскае мовы паходзяць з VIII в. пер. Хр., але за часоў Хрыста яна была адзінаю моваю жыдоў ды іхных суседзяў. Гэтаю моваю гаварыў і навучаў Хрыстос.

Грэцкая мова, якою былі напісаны кнігі Новага Запавету, ёсьць тою асабліваю мовай, якая ўжывалася ў старадаўным культурным сьвеце, пасьля сьмерці Аляксандра Македонскага († 323 пер. Хр.) аж да якіх 500 г. нашае эры. Гэтая мова называецца «койнэ» і паводля свайго сінтаксісу, а нават слоўніцтва шмат розьніцца ад ведамае клясычнае мовы грэцкіх паэтаў, пісьменьнікаў і філязофаў.

Не малое значэньне маюць так-жа і матэрыялы, на якіх былі напісаны старыя кнігі.

Мы сёньня прывыклі да таго, што кнігі маюць усталеную кніжную форму, але ў старадаўнасьці справа мелася зусім іначай. Божыя прыказаньні выпісаныя Божым пальцам на каменных табліцах. Некаторыя кнігі Старога Запавету пісаліся на гліняных, або нават на валавяных табліцах (Іоў 19, 24), выразаліся так-жа некаторыя тэксты на дрэве. З даўных часоў да пісаньня ўжываўся матэрыял са сьцібла расьліны званае папірусам (адкуль і слова папера) і мелі форму скруткаў. Ад II стаг. пер. Хр. ўведзена ў карыстаньне пэргамін выраблены са скураў маладых жывёлаў. Рымскі гісторык Пліній кажа, што першы зачаў ужываць пэргамін кароль Пэргаму Еўмені II.

Маючы на ўвеце розныя матэрыял, на якім першапачаткава былі напісаны кнігі сьв. Пісаньня (папірус вельмі нятрывалы), а так-жа прастор часу, які нас дзеліць ад іх паўстаньня і розныя абставіны ў якіх яны знаходзіліся, ня будзе дзіўным, што аўтографы сьв. кнігаў да нас не дайшлі. Праўда, ня выключана, што яны дзесь могуць быць аднак гэткая магчымасьць мала праўдападобная.

Што да перакладаў сьв. Пісаньня, дык першы раз пяцікніжжа Майсея было пераложана на грэцкую мову ў Александрыі за часоў Птоломэя Фідэльфа (285-247 пер. Хр.) дзеля таго, каб задаволіць духовыя патрэбы жыдоў, якія карысталіся грэцкаю мовай. У гадох 171-117 пераплучачана рэшту Старога Запавету і так паўстала грэцкая Біблія 70 (сэптуагінта). Традыцыя кажа, што Птоломэй, ідучы за радаю бібліятэкара свае бібліятэкі выслаў у Ерузалім пасоў да архісьвятара Элеазара, каб ён прыслаў у Александрыю кнігі Закону і людзей, што знаюць грэцкую і гэбрайскую мовы дзеля таго, каб магчы зрабіць пераклад. Элеазар выбраў 72 чалавек і паслаў у Александрыю. Вучоныя пасяліліся на абтоку Форо і на працягу 72 дзён зрабілі жаданы пераклад.

Грэцкі пераклад 70 хутка распаўсюдзіўся між жыдамі і быў уважаны нароўні з арыгіналам. Хрыстос і апосталы, калі паклікаліся на стары Запавет, дык найчасьцей ужывалі тэксты ў той форме, якою пераказвае іх сэптуагінта.

У другім стагодзьдзі па Хрысьце зроблена тры іншыя пераклады Бібліі на грэцкую мову: Аквілай (к. 140), Тэодоціонам (к. 180) і Сіммахам (к. 200).

Для вучоных біблістаў немалую вартасьць мае пераклад Бібліі на арамайскую мову т. зв. Таргум, сырыйскі пераклад (Пешіта), а нават армянскі і этыёпскі.

Беларусы на зары свае гісторыі пазнаёміліся са сьвятым Пісаньнем перш часткава (з Новым Запаветам) на старославянскай мове ў перакладзе сьвятых братоў Кірыла і Мяфода, а потым з усім сьв. Пісаньнем ў той-жа мове зробленым вучнямі ўспомненых братоў.

Варта ўвагі так-жа пераклад на царкоўнаславянскую мову з гэбрайскае мовы зроблены беларускімі жыдамі ў XV ст., якім карысталіся яны ў сваім багаслужэньні, а потым карысталіся жыдоўствуючыя сэктанты.

У гадох 1517-1525 беларускі вучоны др. Фр. Скарына пераплумачыў і надрукаваў 22 кнігі Бібліі ў перакладзе зьбліжаным да жывое тагачаснае беларускае мовы. Далей працу Скарыны прадаўжаў Васіль Цяпінскі, але нажаль далейшыя гістарычныя падзеі спынілі працу ў гэтым кірунку.

Адразу пасьля першае сусьветнае вайны кс. др. Ільдэфонс Бобіч выдае ў Вільні (1921-1922) «Нядзеляшнія Эвангельлі і навукі». У 1938 г. выходзіць у той-жа Вільні кніжка кс. Адама Станкевіча «Лекцыі і Эванэлі на нядзелі і сьвя-

ты». У наступным годзе кс. Вінцэнт Гадлеўскі выдае «Чатыры Эванэльлі і Апостальскія Дзеі». Трэба так-жа ўспомніць выданы ў Гэльсінках у 1931 г. Брытыйскім Біблійным Аб'еднаньнем «Новы Запавет і Псальмы» ў беларускім перакладзе зробленым Антонам Луцкевічам.

**Аб карысным чытаніні сьв. Пісаньня.**

Адносна чытаньня сьв. Пісаньня варта памятаць, што сьв. Пісаньне напісана людзьмі свайго часу і ў першую чаргу для сучаснікаў, дзеля гэтага для яго належнага разуменьня неабходна ведаць: гісторыю, археалёгію, філялёгія, гісторыю культуры і духовы стан таго асяродзьдзя ў якім былі напісаны кнігі. Дзеля гэтага каталіцкія выданьні падаюць кароткія зацемкі, з успомненых навукаў і думкі айцоў Царквы, якія аблягчаюць разуменьне цяжэйшых мейсц.

Ад вякоў ведама, што сапсуцьцё чагосьці найлепшага ёсьць чымсь найгоршым, падобна маецца рэч і з сьв. Пісаньнем; у ім нават найменшая зьмена і памылка можа мець вельмі далёкасяжныя вынікі. Дзеля гэтага бяручы ў рукі кнігу сьв. Пісаньня, трэба перш пераканацца, ці яно ня мае наўмысных зьменаў і памылак — зарукаю гэтага ёсьць дазвол на друк ад духоўнае ўлады (imprimatur).

Сьв. Пісаньне ёсьць крыніцаю хрысьціянскае веры і навукі і адначасна выявам набожнасьці — гэта кніга жыцьця. У ёй знаходзяцца найпрыгажэйшыя малітвы — Псальмы, пабожныя павучэньні і прыклады. Там паказаны шлях жыцьця з усімі небясьпекамі, якія на ім сустракаюцца і помачу супраць небясьпек. У гэткім духу і трэба чытаць сьв. Пісаньне, каб мець сапраўдную карысьць з чытаньня. Яно напісана не для заспакаеньня пустое цікавасьці, але для збаўленьня душы, для асягненьня сьвятасьці, дык і чытаць яго трэба ў сьвятой пакоры і прастаце.

**а. Ч. Сіповіч.**

(Далей будзе).

# Сьв. Тамаш Мор

(Працяг 2).

**На каралеўскай службе.**

Вернемся да жыцьця Мора. Да славы, якую яму прынесла Утопія, даходзіць слава палітыка і дыплямата. Кароль ужывае яго ўсё часьцей і часьцей у сваіх справах і ў канцы 1518 г. Мор пераходзіць зусім на каралеўскую службу. Сябры Мора вельмі шкадавалі, што ён пакінуў навуку дзеля палітыкі, аднак Мор гэта зрабіў сьведама, уважаючы, што ў часе буры ня можа пакінуць карабля нават той, хто ня ўмее ім кіраваць, і якраз тады ён павінен навучыцца пакіраваць справаю так, каб вынік быў, калі ня вельмі добры, то прынамся, каб ня быў вельмі кепскі. Як ўбачым з далейшае гісторыі, Мору не ўдалося ўратаваць ангельскага карабля, але ён аддаў усе свае сілы і жыцьцё ,каб абараніць яго ад найгоршага.

У часе, калі Тамаш Мор уступіў на каралеўскую службу, канцлерам Англіі быў ёрскі архібіскуп, кардынал Волсэй. Гэнрык VIII, як і іншыя дэспаты, сам быў слабога характару і лёгка паддаваўся пад уплывы іншых людзей, але таксама лёгка і пазбываўся сваіх фаворытаў, калі гэтыя яму надакучалі. У цікавячым нас часе такім уплывовым чалавекам быў кардынал Волсэй. Ён быў таленавітым палітыкам, але вельмі самалюбным і карысталюбным. Заводзіў бесканечныя інтрыгі і ўцягваў Англію ў бесканечныя войны, якія давoдзілі краіну да матэрыяльнае руіны. Трэба аднак аддаць яму пашану за справядлівасьць і парадак, які ён утрымоўваў у нутры краіны. На судзе для яго не было бедных і багатых; нават каб памагчы бедным і несправядліва пакрыўджаным праз багатых, ён устанавіў спэцыяльны трыбунал, на чале якога паставіў Мора.

Каралеўская служба прыносіць Мору большы матэрыяльны дастатак, так што ён хутка змог з сваёю шматлікаю сям'ёю перанесьціся з Сіты ў выгадны дом у Чэльсі. Карты, флірты і пад. у гэтым доме былі забаронены, затое Мор заахвочваў усіх сваіх сямейнікаў да навукі, музыкі і садоўніцтва. Усіх абавязвала супольная вячэрняя малітва, царква ў нядзелі і сьвяты, акрамя таго ў вялікія сьвяты ўсе павінны былі ўставаць a поўначы на малітву. Сам Мор пераважна ўставаў а 2-й г. уночы і да 7 праводзіў час у малітве і разважаньні. А 7 ён ішоў у царкву на багаслужэньне і нават ня прымаў каралеўскіх пасланцоў, пакуль ня скончылася багаслужэньне. Паколькі пазвалялі абавязкі, Мор кожную пятніцу стараўся праводзіць у адзіноцтве, малітве і размышляньнях.

Паміж сваіх шматлікіх абавязкаў, Мор не забываўся і аб належным узгадаваньні свае шматлікае сям'і. Ён быў прыкладным бацькам і даў сваім дзецям адпаведную асьвету. З гэтага гледзішча ён быў далёка ўперадзе свайго веку і сваім дочкам даў такую-ж асьвету, як і сыном.

Так выглядала сямейнае жыцьцё Мора ў найбольш шчасьлівыя гады. Аднак і тады ён не забываўся перасьцерагчы сваю сям'ю перад магчымымі небясьпекамі. «Лёгка — казаў ён — быць добрым у часе, калі цноты ўсюды ўзнагароджваюцца, а праступствы караюцца, але калі вы бу-

дзеце жыць у часе, у якім ніхто вам ня дасьць добрае рады, калі будзеце бачыць цноту пакаранай, а грэх узнагароджаны і калі вы тады, не зважаючы на небясьпеку жыцьця, будзеце трымацца моцна Бога, дык як-бы вы тады былі толькі напалову добрымі, Бог вас узнагародзіць так, як-бы вы былі зусім добрымі».

Гэтыя цяжкія хвіліны, так ясна прадсказаныя Морам, збліжаліся памаленьку. У 1521 г., калі Мор быў назначаны на становішча падскарбніка, Англія ўстрасянулася ад першага вялікага каралеўскага злачынства. Вясною таго году быў выкліканы ў Лёндан найбольшы англійскі магнат князь з Букінгаму і па загаду караля арыштаваны ды патаёмна забіты. Для народу, які ледзь не збунтаваўся з гэтае прычыны, кароль казаў падаць як прычыну забойства выдуманы факт, быццам Букінгамскі князь быў у змове супраць караля і хацеў захапіць карону ў свае рукі.

Другая рэч, якая пачала непакоіць Англію ў тым часе, было распаўсюджаньне лютэранства. Тагачасная Англія была каталіцкаю краінаю і пратэстантызм быў забаронены. Сам кароль у 1521 г. напісаў кнігу супраць гэрэзіяў Лютэра. За гэта ён атрымаў ад папы тытул абаронцы веры. Але каралю ня выпадала дыспутаваць з пратэстантамі і вось ягонае мейсца займае Мор, які пад псэўдонімам Вільяма Рос, пачынае пісаць анты-пратэстанцкія кнігі. Тут варта зацеміць, што 14 гадоў пасьля гэты самы Гэнрык VIII, затрымоўваючы тытул абаронцы веры, загадаў сваім слугам абвінаваціць Мора ў тым, што быццам той намовіў яго, караля, напісаць кнігу супраць Лютэра ў абароне папы і гэтым самым абясславіў яго ўва ўсім хрысьціянскім сьвеце.

Тымчасам Мор хутка пасоўваўся ў сваёй палітычнай кар'еры. Будучы ад 1521 г. падскарбнікам каралеўства, ён часта пасылаецца ў розныя пасольствы. Тут даходзіць да першых сутычак Мора з Волсэям, бо ваенная палітыка Волсэя, якая руйнавала край, не магла знайсьці прыхільнасьці ў Мора, які цаніў мір над усё іншае. Адзіную вайну, якую ён дапускаў, была вайна ў абароне веры. У парлямэнце, які склікаў Волсэй у 1523 г. для атрыманьня грошаў на пакрыцьцё ваенных расходаў, Мор выбіраецца спікерам і Волсэй грошаў не атрымаў.

У 1524 г. Мор назначаецца канцлерам Лянкастэрскага княства і ўпраўляючым Камбрыджскага унівэрсытэту, акрамя таго астаецца адным з трох сяброў каралеўскае рады, якія павінны былі заўсёды знаходзіцца пры каралю.

У гэтым часе Англія ў саюзе з Гішпаніяй ваявалі супраць Францыі. У 1525 г. гэты саюз раптоўна скончыўся, бо Гішпанія не хацела падзяліцца з Англіяй пладамі перамогі. Волсэй адразу мяняе фронт і шукае саюзу з Францыяй супраць Гішпаніі. Але Гэнрык VIII быў жанаты з цёткаю імпэратара, дык з палітычных меркаваньняў, развод быў-бы пажаданы.

Ці думку аб разводзе падказаў Волсэй, ці кароль дадумаўся да гэтага сам, няма ведама. Жонка Гэнрыка VIII Кацярына Арагонская была ўдавою па ягоным браце Артуру і на сужэнства яны атрымалі спэцыяльны дазвол ад папы. Гэтае сужэнства было нешчасьлівае ад самага пачатку. Дзеці радзіліся або мёртвымі, або хутка паміралі, тымчасам Гэнрык VIII жадаў мець насьледніка. У 1525 г. Гэнрык ужо абмяркоўваў плян, каб усынаваіць свайго няшлюбнага сына і зрабіць яго насьледнікам трону ,але ў гэтым-жа часе ён закахаўся ў Ганьне Болейн. Гэты факт і варожасьць да Гішпаніі папхнулі яго беспаваротна на дарогу разводу.

Як і трэба было прадбачыць, Мор ад самага пачатку быў супраць разводу. Але кароль, раз пастанавіўшы, дабіцца разводу, пачаў здейнічаць хутка. Ён вызначыў трох людзей, панятых у кананічным праве, каб яны разгледзелі ўсе магчымасьці ягонага разводу з праўнага гледзішча. Адначасна гэтаю-ж справаю меўся заняцца духоўны суд пад кіраўніцтвам архібіскупаў з Кантэрбэры і Ёрку. Таксама быў высланы ліст у Рым. Пад лістом былі подпісы розных важных асобаў, у тым ліку кардынала Волсэя, але подпісу Мора ня было.

Тамчасам палітыка Волсэя цярпела няўдачу за няўдачаю і гэта выклікала незадаваленьне ў народзе. Пад націскам гэтага незадаваленьня, кароль звальняе Волсэя са становішча канцлера і на яго мейсца назначае Тамаша Мора. Адначасна кароль робіць стараньні аб скліканьні парлямэнту, на які ўскладаецца заданьне залегалізаваць найбольшую трагэдую Англіі. Гэта быў 1529 г.

**Мор канцлерам.**

Тут можна было-б спытацца: чаму Мор прыняў гэтае высокае становішча, калі ён бяз сумніву прадбачыў вынікі, да якіх вядуць крудельствы Гэнрыка і з якімі ён ня мог пагадзіцца?

Гэнрыку вельмі залежала на тым, каб утрымаць на сваёй службе і здабыць для свае справы такога здольнага палітыка, якім быў Мор. І вось ён назначае Мора на канцлера і адначасна абяцае яму ня ўжываць яго ў справах зьвязаных з разводам, каб ня гвалціць ягонага сумленьня.

Магчыма, што Мор меў асаблівыя прычыны, каб прыняць становішча канцлера, бачучы куды павяртаюцца справы, хацеў ратаваць прынамся тое, што яшчэ было магчыма.

Гэнрык ня стрымаў слова, данага Мору, хутка пасьля абняцьця канцлерскага становішча, пачаў націскаць у справе разводу. Тады Мор упаў на калені і сказаў, што ён з радасьцю даў-бы адрэзаць сабе руку, або ногу, калі-б мог з чыстым сумленьнем памагчы ў гэтай справе каралю. Ба-

чучы такую непахісную паставу, кароль здаўся і паўторна абяцаў ня турбаваць Мора ў справе разводу, кажучы, што ў гэтай справе будзе карыстацца людзьмі, якім сумленьне на гэта пазваляе.

Тымчасам быў скліканы парлямэнт. 3-XI-1529 канцлер Мор адчыніў парлямэнт і ў сваёй прамове сказаў, што галоўным заданьнем парлямэнту ёсьць палагодзіць некаторыя ненармальнасьці, пануючыя ў дзяржаве.

Гэнрык умеў дабраць адпаведных кандыдатаў у парлямэнт. Усе яны былі людзьмі бяз ніякіх прынцыпаў, прагныя хуткае нажывы і лісьлівыя слугі караля.

Першаю справаю, якую палагодзіў гэны няшчасны парлямэнт, было ануляваньне даўгоў, што іх нарабіў кароль за 21 год свайго панаваньня. Пасьля пачалася атака на духавенства. Нешчасьлівая палітыка Волсэя і прапаганда пратэстантызму выклікалі ўжо ў гэтым часе досыць моцнае незадаваленьне супраць Каталіцкае Царквы і сьвятароў. Сам Гэнрык, хоць намінальна яшчэ аставаўся каталікам, падпадаў усё больш пад пратэстанцкія ўплывы ў выніку чытаньня пратэстанцкіх кнігаў.

Калі парлямэнт прадставіў каралю свае жалі супраць духавенства, кароль зажадаў ад духавенства сатысфакцыі. Царква хацела залагодзіць гнеў караля пэўнай сумай грошаў, але гэтага каралю было мала. Ён жадаў прызнаньня сябе адзіным пратэктарам і найвышэйшым галавою Царквы ў Англіі.

Аднак духавенства было яшчэ дастаткова моцным, каб супрацьставіцца жаданьням караля. 1531 г. 11 лютага Сынод у Кантэрбэры прымае рэзалюцыю ў якой называе караля «сваім асаблівым пратэктарам, адзіным і найвышэйшым гаспадаром і, пакольк на гэта дазваляе хрысьціянскае права, так-жа найвышэйшым галавою». У гэтай рэзалюцыі засьцярога «пакольк дазваляе...» практычна адымала ўсякае значэньне таго «галоўства» караля, аднак гэта ўжо была палова капітуляцыі.

Тымчасам справа каралеўскага разводу была ўнесена на разгляд у парлямэнт. Адначасна кароль разаслаў запытаньні ў гэтай справе да ўсіх унівэрсытэтаў. Усюды духавенства было ў апазіцыі. Бачучы, што ня зможа зламаць супраціву духавенства, кароль робіць сваё векапомнае «адкрыцьцё», што сьвятары ў ягоным каралеўстве зьяўляюцца толькі напалову яго падданымі, а ў сапраўднасьці яны папскія падданыя, бо пры сьвячаньні складаюць прысягу на вернасьць папе, што быццам супярэчыць той прысязе, якую яны складаюць на вернасьць каралю.

Пасьля гэтага кароль выступае з новымі запатрабаваньнямі супраць духавенства. У выніку гэтага 15-V-1532 сынод у Кантэрбэры падпісвае дакумант, ведамы пад назовам «Падпарадкаваньне духавенства». Гэта быў акт поўнага разрыву з Рымам і прызнаньне неабмежаванае ўлады караля над Царквой у Англіі.

На другі дзень Мор зракаецца канцлерскага становішча і аддае каралю вялікую пячаць каралеўства. Ён бачыў, што цяпер ужо ня можа больш нічога зрабіць у абароне Царквы, як дзяржаўны дзеяч. Яму асталося толькі адно: пакуль хапала сілаў, бараніць Царкву пяром.

**А. Надсон.**

(Далей будзе).

# СПРЭЧКА ЗА СЛОВА

Напрацаваўшыся за цэлы дзень, сеў я вечарам пісаць апавяданьне ў часапіс, аж улятае да мяне ў хату мой недалёкі сусед і як навалiцца на мяне:

— Ты зноў за сваю пісаніну ўзяўся, толькі траціш час і паперу і яшчэ сабе ў галаву набіраеш, што ты нешта значыш, а ты пустамеля, во хто ты!

— Чакай — кажу — чаго так расхадзіўся? Што-ж па твойму газэты і часапісы гэта нічога ня вартыя рэчы, ці што?

— Ах, што з іхняе вартасьці! — кажа — калі цяпер патрэбна сіла, моцны кулак, во што. Ты мусіць за сваею пісанінаю і ня ведаеш, што цяпер, хто хоча нешта значыць, дык фабрыкуе гарматы, самалёты, атамныя бомбы...

— Чакай, чакай — перабіў я яго — адкуль-жа ты аб гэтым ведаеш?

— Як адкуль? — перапытаў ён — дык-жа аб гэтым 'у' г... ну ды... ўсе гавораць аб гэтым.

— Добра, але адкуль яны ведалі-б, каб не газэты? — налягаў я.

— Ведалі-б, ня бойся — гаварыў ужо прыкусваючы язык.

— Вось ты ня круці, а прызнайся, што нешта іншае хочаш сказаць, а пісаніна і часапіс гэта для цябе толькі прычэпка.

— Як прычэпка — зноў закрычаў ён — усё пішаш, што мы нічога ня робім, што мы, ну нібыта мы горшыя ад іншых.

— Паволі, паволі — кажу яму спакойна — а скажы ты мне, хто гэта тыя «мы», якіх думаеш бараніць?

— Як-та хто? Хіба-ж ты сам ня ведаеш?

— Каб ведаў, дык-бы ня пытаўся.

— Хітры вельмі, але я табе кажу, што ты сваею пісанінаю з нас сьвятых ня зробіш. Падумаеш толькі: у кіна пашоў — яму не падабаецца, чарку выпіў — яму не падабаецца, на баль пашоў — яму не падабаецца, грошаў на часапіс ня даў — яму не падабаецца, у морду каму даў — яму не падабаецца, прагуляў пару сваіх уласных граша-

коў — яму не падабаецца — ды хай табе сто з палавінаю разоў не падабаецца, а я што хачу, тое і раблю...

— Цішэй, цішэй крыху. Калі табе так зусім не залежыць на тым, што я думаю, ці пішу, дык чаго крычыш?

— А як-жа ня крычаць? Ты хочаш, каб мы тут у вольным сьвеце былі як нявольнікі. Я хачу жыць і карыстаць з жыцьця і ня люблю, калі мне ногу падстаўляюць, калі я гуляць зьбіраюся, дык не жадаю, каб мне вушы аб'ядалі розныя заклікі аб абавязках, аб сумленьні, аб ідэалах.

— Ну гэта твая справа, але скажы, ці ты такжа гуляў-бы над дамавінаю сваіх бацькоў?

— Ну ты тут з бацькамі ня вылазь, бо папершае ім ад гэтага лягчэй ня будзе, калі я твае пісаніны пачну слухаць, а падругое, гэта ўжо мая сямейная справа.

— На гэта табе трэба перш-на-перш заўважыць, што мы ўсе на эміграцыі творым да пэўнае ступені адну сям'ю, дзеля гэтага і можам і мусім сабе часам па-брацку зьвярнуць увагу, калі нешта дзеецца дрэнна, а другое, не забывайся аб тым, што бацькоў, дзе-б яны ня былі, нічога так не даймае, як доля іхняга дзіцяці.

— А што я? Чым я іх абясславіў? Калі я цяпер нічога не раблю, дык гэта ня значыць, што калі будзе час і патрэба дык я ня стану ў рады абаронцаў сваіх бацькоў і свае бацькаўшчыны. Ня бойся я тады не астануся ззаду і без твае пісаніны.

— Добра, што яшчэ хоць гэтага абавязку не забыўся, але пазволь мне зьвярнуць табе ўвагу, што рады абаронцаў, гэта ня толькі тыя, што трымаюць аружжа ў руках, але кожны той, хто працуе для агульнага дабра. Фронт змаганьня гэта ня толькі там, дзе страляюць, але ўсюды там, дзе вырашаецца доля народу. І ўсе яны аднолькава важныя і толькі тады можна здабыць перамогу, калі яны ўсе будуць добра ўмацаваныя і да таго яшчэ будзе моцнае і здаровае заплечча.

— Ну добра, добра, хай будзе так як Сора казала, але куды-ж ты пашлеш сваю пісаніну? На які фронт паставіш яе?

— На ўсе фронты.

— Што-ж яна там будзе рабіць? — пытае злосна ўсьміхаючыся.

— Будзе рабіць больш, чым табе здаецца, бо зьняверaныя людзі нідзе і ніколі ня могуць асягнуць ніякае перамогі, тымбольш не асягнуць вызваленьня, бо сапраўднае вызваленьне пачынаецца ня звонку, але з душы, а там яно родзіцца пад уплывам магутнага шчырага слова.

— Магутнага, шчырага слова — паўтарыў паўголасам — можа гэта і праўда, але ці ты думаеш, што гэткае слова ты зможаш сказаць?

— Калі я сам гэткага слова ня маю, дык бяз сумніву ведаю, што яго мае Усемагутны Бог, і Ён сказаў ужо людзям сваё слова, а я магу паўтарць тое жыватворчае Божае слова, магу сеяць яго ўсюды, і гэта я раблю. Гэтым самым я займу ўжо сваю постань на фронце і паводля маіх сілаў і помачы з неба не саступлю з яго, і якраз з гэтага фронту магу і мушу спытацца ў цябе: як маецца справа на тваім фронце? Хто там стаіць на постані?

— На маім?... паўтарыў ціха, ня глядзячы мне ў вочы і вышаў за дзьверы.

Так спрэчка наша асталася нескончанаю, але таму, што ён сам прышоў да мяне, сам зачаў яе і сумняюся, ці больш калі завітае да мяне, дык давядзецца выслаць яму Слова поштай, а памоцніцаю мне ў гэтай справе згаджаецца быць звычайная папера.

**А. Жменя.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## МАНІФЭСТАЦЫЯ КАТАЛІЦКАЕ ЕДНАСЬЦІ

З нагоды 13-ых угодкаў каранацыі Сьвяцейшага Айца Пія XII была наладжана ў Парыжу дня 19-III вялікая маніфэстацыя ў салі Мутюалітэ пад старшынствам Парыскага Архіб. Я. Э. Фэльтэна і ў прысутнасьці Апостальскага Нунцыя Я. Э. Ронкальлі з удзелам рэктараў усіх чужынецкіх каталіцкіх Місіяў у Парыжу са сваімі дэлегацыямі і сьцягамі, між якімі прыгожа красаваўся і беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Галоўнаю тэмаю маніфэстацыі было выказаць і паказаць, што можа зрабіць Каталіцкая Царква для ўстанаўленьня міру ў сьвеце. Па берагі перапоўненая вялікая саля і гучныя воплескі ўсіх прысутных, якія суправаджалі прамоўцаў, сьведчылі самі за сябе, што намечаная мэта была асягнена.

## ПАМЁР Я. Э. БОССАР.

Пасьля доўгае і цяжкае хваробы Яго Эксцэленцыя Рогэр Боссар, тытулярны архіб. Моціссоса і памоцнік Парыскага архібіскупа ўпакоіўся ў Богу дня 29 лютага г. г. Пакойны, як зьверхнік усіх чужынецкіх каталіцкіх Місіяў ў Парыжу, быў шырока ведамы між усімі чужынцамі і карыстаўся агульнаю сымпатыяю. Багаслужэньне за ўпакой яго душы ў перапоўненай царкве Нотр Дам было ня толькі шчыраю малітваю, але так-жа вымоўным выявам таго, што можа зрабіць у справе збліжэньня Цэркваў, шчырая любоў да бліжніх і бескарысная дабрадзейнасьць. На багаслужэньні побач шматлікіх вызначных французскіх каталіцкіх ерархаў былі шматлікія іншанацыянальныя прадстаўнікі і, што асабліва зьвяртала на сябе ўвагу, не-

калькі праваслаўных япіскапаў і пратэстанцкіх пастараў.

Да беларусаў пакойны адносіўся вельмі прыхільна. Дзякуючы яму было магчыма стварыць у Парыжу Беларускую Каталіцкую Місію.

### «ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ МАРАЛЬНАСЬЦІ».

З Ватыкану паведамляюць, што нядаўна заложана міжнародную арганізацыю, якая мае на мэце змагацца супраць немаральнасьці ў грамадзкім жыцьці і ў першую чаргу супраць немаральнасьці прэсы. Ужо ёсьць адзьдзелы гэтае арганізацыі ў большых краінах вольнага сьвету. Афіцыяльна новая арганізацыя называецца: Міжнароднае Аб'еднаньне для Аховы Публічнае Маральнасьці.

### МІЖНАРОДНЫ САКРАТАРЫЯТ КАТАЛІЦКАЕ ПРЭСЫ.

Згодна з пастановамі Паршага Кангрэсу Каталіцкае Прэсы, якія адбыўся летась у Рыме сёлета 1-III адчынена ў Парыжу бюро Міжнароднага Сакратарыяту Каталіцкае Прэсы.

### ЯШЧЭ АДЗІН БІСКУП НЭГР.

Кангрэгацыя для Прапаганды Веры нядаўна ўтварыла ў Бэльгійскім Конго новы апостальскі вікарыят з аседкам у Ніундо і даручыла яго нованазначанаму біскупу Я. Э. Люізу Бігірумвані. Гэта ўжо трэці з чаргі біскуп нэгр. Лік вернікаў нэграў за апошнія два гады паважна ўзрос. У самым толькі апостальскім вікарыяце Урундзі (з якога нядаўна выдзелена вікарыят Ніундо) лік вернікаў дасягнуў 1.063.591 чалавек, не рахуючы катэхумэнаў.

### У КРАІНАХ «НАРОДНАЕ ДЭМОКРАЦЫІ».

**Мадзярская** камуністычная прэса нядаўна выступіла з вострымі нападамі супраць Я. Э. Ковача біск. Сомбатэлі і Я. Э. Пэтэрі біск. Вачскага за тое, што яны ня дзейнічаюць згодна з прысягаю, якую зламылі летась і знаходзяцца ў радох пасыўнага апору. На ўспомненых ерархаў наложаны дамовы арышт.

Падобна ў **Чэхаславаччыне** за «нэгатыўныя адносіны да ўлады» выселена з Чэскіх Будзэёвіц Я. Э. Язэпа Глуш'а — доля выселенага няведамая.

З **Кітаю** даходзяць штораз сумнейшыя весткі аб адносінах камуністаў да Каталіцкае Царквы. Агульны лік пацяпеўшых біскупаў і пралатаў сёлета ў лютым сягаў 46 чалавек, у тым ліку: арыштавана 23, трымаюць у дамовым арышце 8 і выселена з Кітаю 15. Лік пацярпеўшых сьвятароў сягае некалькі тысяч.

У **Югаславіі** так-жа ня спыняецца паход супраць рэлігіі. Сёлета на пачатку году ўва ўсіх тых школах, дзе было да гэтага часу, на выразнае дамаганьне бацькоў, дапушчана выкладаньне рэлігіі (Словэнія, Харвацыя), гэтае выкладаньне забаронена і на яго мейсца афіцыяльна ўведзена навучаньне «маральнасьці». Ад гэтага часу забаронена навучаньне рэлігіі па-за сьвятынямі.

### НОВАЯ «АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ЦАРКВА».

У часе калі Чэхаславацкі камуністычны ўрад усімі спосабамі прасьледуе Каталіцкую Царкву, зьвяртае на сябе ўвагу ўрачыстае абвешчаньне «Аўтакефаліі Чэхаславацкае Праваслаўнае Царквы», якую атрымала гэтая Царква з рук Маскоўскага Патрыярха 23-XI-51, а самая ўрачыстасьць абвешчаньня адбылася ў Празе дня 8-XII-51 у прысутнасьці прадстаўнікоў чэхаславацкага ўраду і госьцяў ад падсавецкіх «Праваслаўных Цэркваў». Зьверхнікам новае «Царквы» зьяўляецца мітр. Елевферый (Воронцов) расеец хіратанізаваны ў 1942 г. на яп. Ростовскага і прысланы ў Прагу ў 1946 г. Праваслаўных чэхаў і славакаў ў 1946 было ўсяго каля 50.000 але ў 1950 сілаю прылучана да іх гр.-кат. насельніцтва і ўтворана тры новыя епархіі з новымі ерархамі.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### БЕЛАРУСКАЯ ПРЭСА НА ЭМІГРАЦЫІ.

У мінулым годзе на эміграцыі вышла ўсяго 22 назовы беларускіх газэтаў і часапісаў з вельмі няроўнаю пэрыядычнасьцю. Паводля краінаў яны разьмяркоўваліся такім парадкам: З. Ш. А. — 8 (36,4%), Англія — 4 (18, 5%), Францыя — 3 (13,6%), Нямеччына — 2 (9%), Канада — 2 (9%) і па адным у: Бэльгіі Італіі і Аўстраліі. Непэрыядычная прэса за мінулы год выказался ўсяго 5-ю брашурамі.

### БЫЦЬКАЎШЧЫНА.

**Вылюдненьне Беларусі ўзмацняецца.**

На паседжаньні Вярхоўнага Савету СССР у Маскве дня 7-III адзін з сакратароў ЦК ВКП(б)Б Абрасімаў хваліўся, што між іншымі «асягненьнямі» цяпер у БССР ёсьць 11.615 школаў з агульным лікам 1.426.000 вучняў. Потыя гэтыя даныя паўторана на сэсіі такога-ж Савету ў Менску. Калі супаставіць паданы лік вучняў у БССР з лікамі з папярэдніх гадоў, дык убачым жахлівую праўду: у 1948 г. было 1.500.000 вучняў, у 1949 — 1.489.800, у 1951 — 1.466.000, а сёлета толькі — 1.426.000. У нармальных умовах гэты лік мусіў-бы што год узрастаць і асягнуць у гэтым годзе, згодна з прыродным ростам беларусаў, вышыню 1.650.000. Значыць за пяць апошніх гадоў дзесь зьнікла 224.000 беларускіх дзяцей. Калі дадамо да гэтага лік іхных бацькоў і сямейнікаў — убачым жудасную сапраўднасьць.

### «Мірная канфэрэнцыя».

У верасьні мінулага году паасобныя рэспублікі Сав. Саюзу арганізавалі камуністычныя агітацыйныя мітынгі, голасна рэклямаваныя, як «канфэрэнцыі прыхільнікаў міру». Варта ўвагі, што ўва ўсіх гэтых «канфэрэнцыях» актыўна ўдзельнічалі прадстаўнікі савецкае «Праваслаўнае Царквы». На падобнай канфэрэнцыі ў Менску дня 5-IX выступаў арх. Піцірым (Сьвірыдаў) Менскі і Беларускі.

## АНГЛІЯ.

### Беларускія песьні ў радыё.

Лёнданскае радыё «Гоум сэрвіс» дня 14-га лютага перадало дзьве беларускія песьні: «Лявоніху» і «Каляду» ў выкананьні Дануты Леско. Гэта першы асьцярожны крок брытыйскіх радыёперадачаў адносна беларускіх песьняў.

### 25-га Сакавіка ў Лёндане.

34-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі сёлета азначылі ў Лёндане больш урачыста чым калі. З гэтае нагоды дня 30-III раніцаю рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі а др. Ч. Сіповіч адправіў урачыстую Службу Божую ў капліцы дому айцоў Марыянаў. Папалудні таго-ж дня ўся беларуская калёнія з Лёндану сабралася ў вялікай салі Беларускага Дому на ўрачыстую акадэмію, якую адчыніў кароткаю прывітальнаю прамоваю старшыня Лёнданскага Адзьдзелу ЗБВБ Ул. Курыла. Наступна пасьля адсьпяваньня малітвы «Магутны Божа» старшыня галоўнае ўправы ЗБВБ Ал. Надсон прачытаў даклад на тэму дня. На акадэміі прысутнічалі так-жа госьці: ангельцы, палякі, расейцы, славакі, украінцы і чэхі — іхныя прадстаўнікі прывіталі беларусаў з нацынальным сьвятам.

У мастацкай часьці акадэміі хор ЗБВБ адсьпяваў некалькі беларускіх песень у перамежку з дэклямацыямі вершаў. Пасьля заканчэньня адбылося сяброўскае прыняцьце, на якім прыязная атмасфэра і беларускія песьні пакінулі ўва ўсіх глыбокі і прыемны ўспамін.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Сакавіковыя ўрачыстасьці

У **Сыднэю** дня 30-III а. Анатоль Кунцэвіч адслужыў урачыстую Службу Божую за Беларусь і пры гэтым сказаў прыгожае казаньне аб сужыцьці і згодзе ў грамадзкім і асабістым жыцьці. Пасьля Службы Божае адбылася супольная акадэмія. Наступна меўся адбыцца супольны сход усіх сяброў Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўд. Валліі і выбары новае ўправы, але дзеля разнагалоснасьці сяброў сход быў сарваны.

У **Брысбане** для анзачэньня 34-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі мяйсцовыя беларусы сабраліся дня 29-III у памешканьні Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў, выслухалі рэфэрат: «25 Сакавік — пуцяводная зорка магутнасьці народу», пасьля чаго адбылася сяброўская гутарка, а ўканцы былі прачытаны шматлікія прывітаньні.

Наступнага дня падобна азначылі гэтыя ўгодкі ў **Кальмскон.**

## БЭЛЬГІЯ.

### Лювэнскія ўрачыстасьці.

Яшчэ нідзе да гэтага часу беларусы на эміграцыі не перажывалі такіх урачыстых і хвалюючых дзён, як перажывала сёлета 25-га сакавіка беларуская бэльгійская грамада ў Лювэне разам з беларускімі дэлегацыямі з Англіі і Францыі. Дзьве вялкія ўрачыстасьці запоўнілі сваею праграмаю гэты дзень ад раньня да позняга вечара: сьвяткаваньне 34-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі і пасьвячаньне Беларускага Студэнцкага Дому.

Раніцаю таго дня а гадз. 7 айцы: Робэрт ван Кавэлярт, Леў Гарошка і Чэслаў Сіповіч адправілі ў капліцы айцоў Бэнэдыктынаў саборную Службу Божую для каталікоў, а наступна а. Аўгень Смаршчок а гадз. 8 у беларускай капліцы адправіў Службу Божую для праваслаўных. Прыгожа і ўрачыста сьпяваў студэнцкі хор. Наступна ўсе накіраваліся ў сьвежа адрэмантаваны Беларускі Студэнцкі Дом, каб там крыху пасілкавацца.

Адразу па абедзе напоўнілася саля Стуэнцкага Дому пры Лювэнскім Унівэрсытэце — гэта сабраліся беларусы азначыць слаўныя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці свае бацькаўшчыны. Праграма ўрачыстасьці была прыгожа ўложана ў форме мантажу сьпеваў, музыкі, дэклямацыяў і рэцытацыяў. Гэраізм змаганьня, трагізм упадку, сум няволі, цярпеньне зьдзекаў, баёвае тэмпо адраджэньня, моц маладога запалу, натхненьне да пераможнае барацьбы, нязломная вера ў лепшую будучыню і Божае бagaславенства — усё гэта выказвалі мэлёдыі песьняў і словы дэклямацыяў. І выказваліся яны з такім глыбокім пачуцьцём, што не аднаго з прысутных расчулілі да сьлёз і на ўсіх пакінулі незацёрты ўспамін. Усю праграму выконвалі беларускія студэнты і вучні.

Вечарам а 5 гадз. пачалі сходзіцца беларусы і шматлікія высокія госьці ў салю Беларускага Студэнцкага Дому. Хоць саля не малая, але ніяк ня можа зьмясьціць усіх, што сваю прысутнасьцю захацелі ўшанаваць новае вогнішча беларускага культурнага жыцьця. Між пачэснымі госьцямі зьвяртаюць на сябе агульную ўвагу прадстаўнікі ад некаторых бэльгійскіх Міністэрстваў, Я. Э. Б. Слосканс адмінсратар Магілэўскі і Менскі, шматлікія прафэсары Лювэнскага унівэрсытэту, супэр'ё-



**У першым радзе сядзяць з права на лева: Яго Эмінэнцыя Кардынал Аўгень Тіссэран, Яго Эксц. Фэрнандо Чэнто Апостальскі Нунцый** у Бэльгіі, Яго Эксц. **Язэп Сюнэнс прадстаўнік Яго Эм.** Малінскага Кардынала, **Яго Эксц. Балеслаў Слосканс Апостольскі Адміністратар Менскі і Магілёўскі.**

ры розных чынаў, дэлегаты ад розных бэльгійскіх ды іншанацыянальных установаў. Уканцы пад воплескі ўсіх прысутных увайходзіць разам з Апостальскім Нунцыем Я. Э. Фэрнардо Чэнто, прадстаўніком Малінскага кардынала Я. Э. Язэп Сунэнс і Мср. Ван Вайенбэргам рэктарам універсытэту Яго Эмін. кардынал Тіссэран дэкан кардынальскае калегіі і гэнэральны сакратар сьв. Кангрэгацыі для ўсх. Царквы. Ён умысна на гэтую ўрачыстасьць прыехаў у Лювэн. Пры ўходзе Яго сустракаюць студэнты хлебам сольлю, а студэнцкі хор сьпявае магутнае «Многая лета». Пачынаецца ўрачыстасьць. Старшыня Бэльгійска-Беларускага Камітэту Помачы Беларускім Студэнтам граф. Дэніс зьвяртаецца да высокага госьця са славамі падзякі і пераказвае кароткую гісторыю беларускае студэнцкае групы ў Лювэне. Наступна прамаўляюць а. др. Робэрт ван Кавэлярт, др. Б. Рагуля і В. Рамук — ад імені студэнтаў. Уканцы зьвяртаецца да студэнтаў і усіх удзельнікаў з кароткаю прамоваю Яго Эм. кардынал Тіссэран. У ягоных словах шмат зычлівасьці для беларусаў, ён іх ужо добра ведае і дакляруе, што далей сваю прыхільнасьць будзе выказваць больш чым словам — дзейным учынкам падтрыманьня. Між прамовамі хор пад кіраўніцтвам камп. М. Равенскага сьпяваў беларускія песні. Пасьля прамоваў Кардынал асабіста пасьвяціў Дом. Адбылася афіцыяльная частка, цяпер высокія госьці знаёмяцца з беларускімі студэнтамі і вучнямі, ладзіцца сьціплы пачастунак ў вельмі прыязнай атмасфэры і саля Дому доўга не змаўкае рознамоўнаю гамонкаю.

Але вось зьбліжаецца 8 гадз. і гэтым разам галя Лювэнскага унівэрсытэту, замененая ў гэты вечар на аграмадную сталовую, запаўняецца пабераґі гасьцямі. Іх цяпер шмат больш, як у Студэнцкім Доме. Нават больш вызначных госьцяў пералічыць цяжка, сапраўды радасная «немагчымасьць». Вось толькі дробная частка госьцяў: Яго Эм. Кардынал Тіссэран, Яго Эксц. Апостальскі Нунцый Чэнто, Яго Эксц. Сюнэнс прадстаўнік Яго Эм. Малінскага Кардынала ван Руй, Яго Эксц. Балеслаў Слосканс, Монс. ван Вайенбэрг рэктар Лювэнскага Унівэрсытэту, пралат Літт віцэрэктар, дзяржаўны міністар Ф. ван Ковэлярт Прэзыдэнт Бэльгійскага Парлямэнту, міністар юстыцыі і культаў Фоліен, паўнамоцны міністар Мэнье, прадстаўнік міністра замежных справаў П. ван Зээлянд, былы прэм'ер міністар Эйскэнс, галоўны сакратар Мінітарства Замежных Спраў Ж. Воссэн, шэф кабінэту Міністэрства Народнага Здароўя Спрэўтэльс, дырэктар Міністэрства Народнага Навучаньня ван дэн Боррэн, шмат прафэсароў Лювэнскага Унівэрсытэту і цэлы рад прадстаўнікоў ад розных царкоўных, дзяржаўных і дабрадзейных ўстановаў, ды прадстаўнікоў ад іншанацыянальных арганізацыяў.Бяседа, пераплятаная прамовамі і выступамі хору беларускіх студэнтаў, зацягнулася да позна га вечару.

Бэльгійскае радыё і амаль уся бэльгійская штодзённая прэса, а так-жа некаторыя тыднёвікі падалі справаздачы і фатаграфіі аб гэтых урачыстасьцях.

Госьці разьехаліся, а студэнты асталіся ў сваім Доме каваць лепшую долю для свае бацькаўшчыны. Адзін з іх кажа, а магчыма ўсе гэтак думаюць: «Нічога-б больш не хацеў, каб Бог дапамог у знак удзячнасьці бэльгійцам, каб у вольнай Беларусі мы калісь змаглі зрабіць нешта падобнае якому іншаму народу».

## ГІШПАНІЯ.

### Старшыня ЦБАА ў Мадрыдзе.

Старшыня Цэнтралі Беларускіх Акадэмічных Арганізацыяў др. Б. Рагуля адведаў у днёх 14-18 лютага групу беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе, паінфармаваў яе аб жыцьці іншых беларускіх студэнцкіх асяродкаў і сам дакладна зарыентаваўся аб магчымасьцях студыяў для беларусаў у Мадрыдзе, зладжыў рад візітаў, кіраўіком установаў, якія апякуюцца замежнымі студэнтамі.

Дня 16-га лютага беларускія студэнты ў Мадрыдзе ў прысутнасьці д-ра Б. Рагулі заснавалі Беларускае Акадэмічнае Згуртаваньне ў Гішпаніі. Старшынёю абраны Я. Сурвіла.

### Гішпанская прэса аб Беларусі.

Мадрыдзкі штодзеньнік «Эль Пуэблё» Нр. 3901 з дня 19-III, зьмясьціў даволі абшырны артыкул: «Беларусь, лава цярпеньня і мукі народу, забытага цывілізацыяю», у якім аўтар дае аб'ектыўны і зьмястоўны агляд гісторыі беларускага адраджэн-

скага руху так на бацькаўшчыне, як і на эміграцыі. Уканцы выказвае надзею, што хутка настане дзень вызваленьня, Беларусі.

### Інстытут Беларусаведы ў Мадрыдзе.

Гішпанскі Цэнтр Узаемаабмену Эўрапэйскае Культуры дня 2-III г. г. утварыў беларускую сэкцыю пад назовам Інстытут Беларусаведы ім. Льва Сапегі. Старшынёю Інстытуту назначаны прынц Тодар Ляскарыс Комнэно. Канстытуцыйны акт адкрыцьця новае культурнае ўстановы адбыўся дня 24 сакавіка ў клюбе «Мэдіна» ў прысутнасьці Я. Э. Закарыі дэ Вікара тыт. біск. Эрэссу кіраўніка Гішпанскае Каталіцкае Акцыі і шматлікіх госьцяў. Старшыня Інстытуту прынц Ляскарыс прачытаў інаўгурацыйны даклад на тэму: «Беларусь і Эўропа». Галоўныя гішпанскія газэты наступнага дня падалі кароткія зацемкі аб самым Інстытуце і яго адкрыцьці.

### 25-га Сакавіка ў Мадрыдзе.

Сёлета 34-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі былі азначаны ў Мадрыдзе ўрачыстаю Службаю Божаю, якую адправіў у капліцы калегіі сьв. Якава калегіяльны капэлян а. Мартінэз. Вечарам таго-ж дня а гадз. 18-40 Гішпанскае Нацыянальнае Радыё перадавала беларускую аўдыцыю, у праграму якое ўвайходзілі: рэлігійная песьня «Матутны Божа», зварот прэз. БНР М. Абрамчыка да беларускага народу, а закончылася беларускім нацыянальным гымнам.

## З. Ш. А.

### У радох моладзі.

Уканцы мінулага году з пачыну Арганізацыі Беларускае Моладзі ў Кліўленд заснавалася Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў З. Ш. А. Рады новапаўсталае арганізацыі разрастаюцца штораз больш і сёньня яна ўжо мае свае адзьдзелы ў: Нью Ёрку, Кліўленд і Дэтройт.

### Беларускі канцэрт у Нью Ёрку.

Стараньнем Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня дня 23-II быў наладжаны ў Нью Ёрку канцэрт сьпявачкі Надзі Градэ пры акампаніямэнце камп. М. Куліковіча. Канцэрт складаўся з дзьвёх частак, у праграму першае часткі ўвайшлі заходня-эўрапэйскія музычныя творы, а другая частка складалася з беларускіх песень. Высокамастацкае выкананьне ўсяе праграмы і прыемны голас сопрано сьпявачкі былі належна ацэнены слухачамі.

### Дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.

Тымчасовая ўправа Інстытуту ўжо прыступіла да канкрэтнае дзейнасьці. Дня 8-III др. В. Тумаш прачытаў дыскусійны рэфэрат на тэму: «Беларускія культурныя ўплывы на Польшчу», 15-III быў наладжаны юбілейны вечар Наталі Арсеньневай з рэфэратам аб яе творчасьці і рэцытацыяю яе вершаў. У далейшай дзейнасьці намечаны рэфэраты праф. Л. Акіншэвіча і праф. М. Куліковіча.

### Новы ўрад БНР.

У выніку даўжэйшых перагавораў між беларускімі незалежніцкімі партыямі і групамі на эміграцыі ўканцы сакавіка ўтворана ў Нью Ёрку новы ўрад БНР.

### Арганізацыйнае жыцьцё беларусаў у Кліўлендзе.

Пачынаючы ад лютага г. г. беларуская калёнія ў Кліўлендзе пачала выдаваць месячны «Бюлетэнь» — зьмест яго багаты і падбадзёрваючы. Адтуль даведваемся, што: Кліўлендзкі Адзьдзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыў 24-II свой гадавы сход. Пасьля Службы Божае сябры Адзьдзелу сабраліся ў памешканьні арганізацыі, выслухалі справаздачу ўправы і Рэвізійнае Камісіі, ды прадыскутаваўшы іх, далі ўступаючай управе абсалюторыю з падзякаю і выбралі новую ўправу ў такім складзе: старшыня — А. Каханоўскі, сакратар — М. Беламук, скарбнік — А. Яраховіч, жаночы рэфэрэнт — К. Чэрнік, кальпартэр прэсы — С. Карніловіч.

Сёлета ў Кліўлендзе ёсьць 6 беларускіх арганізацыяў, усе яны ўвайходзяць у Беларускі Злучаны Камітэт у Кліўлендзе, які заснавана на агульным сходзе 24-II. г. г.

### Сакавіковыя ўрачыстасьці.

Асабліва ўрачыста азначылі 34-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці свае бацькаўшчыны беларусы з **Нью Ёрку** і ваколіц. Вялікая саля Бэтховэна ў Нью Ёрку была перапоўнена новаю і старою эміграцыяю. Да прысутных прамаўляў прэз. М. Абрамчык. Мастацкую частку выканана пад кіраўніцтвам камп. М. Куліковіча.

У **Кліўлендзе** з гэтае-ж нагоды дня 23-III раніцаю была адслужана ў Беларускай праваслаўнай царкве ўрачыстая Служба Божая і паніхіда па загінуўшых змагарох, а папалудні ў салі Украінскага Народнага Дому адбыўся канцэрт, папярэджаны рэфэратам аб сакавіковых падзеях.

У **Чыкаго** ўрачыстая акадэмія адбылася 30-III. У перапоўненай салі сабраліся прадстаўнікі старое і новае эміграцыі ды госьці ад іншых нацыя-

нальнасьцяў. Пасьля першае часткі, на якую скла- ліся: гымн, прамова В. Пануцэвіча і рэфэрат Ал. Якімовіча, адбылася мастацкая частка, выкананая моладзю з глыбокім пачуцьцём і з вялікім май- стэрствам. На заканчэньне адбыўся супольны бан- кет.

### Трэці Кангрэс БАЗА.

Беларуска - Амэрыканскае Задзіночаньне ў З. Ш. А. расьце і разьвіваецца. Аб гэтым вымоўна сьведчыць 3-і Кангрэс названае арганізацыі, які адбыўся 1-2 сакавіка ў Нью Ёрку. Справаздача ўступаючае ўправы выказала, што БАЗА сёлета мае 14 адзьдзелаў, лік сяброў амаль падвоіўся, прароблена за мінулы год паважную грамадзка- нацыянальную працу. Даўшы абсалюторыю з па- дзякай уступаючай управе, і намеціўшы вытычныя для пляну працы на бягучы год, Кангрэс выбраў новую ўправу ў такім складзе: старшыня — гэн. Ф. Кушаль, заступнікі старшыні — інж. Ч. Ханяў- ка і Б. Дубоўскі, сакратар — А. Валюшка, скарб- нік — У. Русак, культурны рэфэрэнт — Н. Ар- сеньнева. Новай управе даручана прыдбаць Бела- рускі Дом у Нью Ёрку.

## КАНАДА.

### Канцэрт у Монтрэалі.

Стараньнем беларускае грамады ў Монтрэалі дня 9-III быў наладжаны беларускі канцэрт спа- лучаны з прадстаўленьнем «Заручыны Паўлінкі» Фр. Аляхновіча. Умела ўложаная праграма пад кі- раўніцтвам П. Чопчыца дазволіла глядачом пра- весьці вечар прыемна і карысна.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Жаночае Згуртаваньне.

Беларусаў у Нямеччыне асталося ня шмат, але між імі асталіся тыя, што найбольш патрабуюць помачы. І вось Беларускае Жаночае Згуртаваньне ў Нямеччыне на сваім паседжаньні ў Мюнхэне дня 9-III пастанавіла ўзяць на сябе абавязак вясьці дабрадзейную акцыю на карысьць патрабуючых суродзічаў — мэта якая заслугоўвае найбольш актыўнага падтрыманьня з боку ўсяе беларускае эміграцыі.

### У лягэры Фэльдмохінг.

Невялікая група беларусаў, якая асталася ў лягэры Фэльдмохінг, нядаўна на супольным па- седжаньні выбрала свой Камітэт з Іванам Кола- сам на чале. Стараньнем Камітэту адсьвяткована беларускі Нацыянальны Дзень 25-III. Гэтага дня украінскі праваслаўны сьвятар адслужыў мале- бень за Беларусь і паніхіду за ўпаўшых змагароў.

Папалудні таго дня ў лягэрнай салі быў прачы- таны рэфэрат на тэму дня і ўсе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гымн. На за- заканчэньне адбылося сьціплае прыняцьце.

## ФРАНЦЫЯ.

### Гадавая сходка АБРФ.

Дня 24 лютага адбылася ў Парыжу ў салі Хрысьціянскага Сындыкату гадавая сходка Аб'ед- наньня Беларускіх Работнікаў ў Францыі. Спра- баздача ўступаючае управы Гэнэральнага Сакра- рарыяту, Рэвізійнае Камісіі, управы Парыскае Сэк- цыі а так-жа сэкцыі з Крэзо выявілі і асягненьні і цяжкасьці і недахопы ў працы ўправы за ўвесь мінулы пэрыяд Пасьля дыскусіі над імі выбрана новую ўправу ў такім складзе: гэ- нэральны сакратар — Ал. Яцэвіч, заступнік гэн. сакратара — М. Хоміч, сакратар — В. Міцкевіч, скарбнік — Я. Чыгір, сябра ўправы — М. Нау- мовіч. На заканчэньне абгаворана цэлы рад бягу- чых актуальных справаў.

### Угодкі Сакавіковага Акту.

Для азначаньня 34-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі рэктар Беларускае Місіі ў Парыжу адправіў дня 30-III. урачыстую Службу Божую ў беларускай капліцы пры царкве Сан Сюльпіс з прынагодным казаньнем, а папалудні таго-ж дня ў салі Хрысьціянскага Сын- дыкату адбылася акадэмія. Паслля ўступнага сло- ва М. Хоміча гэнэральны сакратар АБРФ Ал. Яцэ- віч пераказаў гісторыю вызвольных змаганьняў беларускага народу. На далейшую праграму зла- жыліся: кароткія прамовы госьцяў, дэклямацыі і сьпевы В. Жаўняровіча. На заканчэньне ўсе пры- сутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гымн.

### Сакавіковыя ўрачыстасьці ў Ля Крэзо.

Беларусы з Ля Крэзо і ваколіц грамадна сабра- ліся дня 30-III ў царкве сьв. Карла, дзе а. Фр. Чарняўскі адправіў Службу Божую за Беларусь і сказаў зьместоўнае прынагаднае казаньне.

Пасьля супольнага сяброўскага абеду ўсе бе- ларусы і госьці сабраліся ў салі гарадзкое ўправы на акадэмію, якую адчыніў старшыня мяйсцовае філіі АБРФ Бр. Нагорны і пасьля адсьпяваньня «Беларусь наша Маці-Краіна», ён-жа прачытаў рэ- фэрат на тэму дня. На мастацкую частку акадэміі злажыліся: сьпевы дэклямацыі і гра на акордэоне 7-і гадовага Аўгеня Трусава. Закончылася акадэ- мія адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну. Ува ўсіх прысутных гэтая ўрачыстасьць выклікала бадзёры настрой і пакінула доўгапа- мятнае ўражэньне.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## КОНІ ПАЛОХАЮЦЦА

У 1939 г. бальшавікі замянілі маёнтак Рэйтана «Грушаўку» ў конскагадаўляную фэрму. Галоўным гадаўляным тэхнікам назначылі паляка-былога ўрадаўца. І гэты тэхнік, каб прыпадабацца сваім новым гаспадаром, сьсек прыдарожны крыж ля маёнтку, апраўдваючыся перад ваколічнымі сялянамі, што нібыта коні палохаліся таго крыжа, хоць ён стаяў там ад няпамятных часоў і нікога не палохаў. Пару тыдняў пасьля гэтае падзеі паехаў тэхнік на старой кабыле ў Рачканы і, вось дзіва, калі даехаў да прыдарожнага рачканскага крыжа, кабыла сапраўды спалохалася крыжа і так раптоўна кінулася ўбок, што тэхнік, хоць і быў добрым коньнікам, паляцеў кумяльгом з кабылы. Сяляне падбеглі яго ратаваць, але паднялі ўжо толькі труп.

**Я. А.**

## СЬВЕДЧАНЬНЕ ВУЧОНАГА.

Амэрыканскі фізык і дзяржаўны дзеяч Бэнжамін Франклін (1786-1847) сам улажыў сабе такі надгробны напіс: «Тут спачывае цела Бэнжаміна Франкліна, як аправа старое кнігі, з якое вынялі яе зьмест, зрабавалі яе напіс і пазалоту. Цяпер яно толькі пажыва для рабакоў, але сам твор ня страчаны; я моцна веру, што гэты твор зьявіцца калісь у новым, прыгожым выданьні, перагледжаным і папраўленым сваім Стварыцелем».

## НАВУКА ДЛЯ МІСІЯНАРА.

Адзін місіянар, які доўгія гады правёў на Цэйлёнскім абтоку, апавядае, што аднойчы ў горадзе Колёмбо падышоў да яго мяйсцовы індзеец і спытаўся: «Ці вы верыце, што Хрыстос мае калісь зноў прыйсьці?» Місіянар глянуў на пытаючага і адказаў: «Так, я веру ў гэта!» Хвіліну памаўчаўшы, індзеец гаварыў быццам сам да сябе ў радасным уздыме: «Кожнае раніцы, перш чым ісьці на працу, я ўзыходжу на дах свае хаты і малюся: Госпадзе, дай мне так жыць, каб я быў заўсёды гатовы стаць перад Тваім аблічам, калі-б Ты нават меў прыйсьці сягоньня! О, як я хачу жыць у Тваёй сіле, Ты Уваскросшы!» «Мы маўчалі — кажа місіянар — але ў той час я адчуваў сябе блізка задзіночаным з няведамым простым індзейцам у непадзельнай надзеі і чаканьні, маючага прыйсьці Госпада».

Паводля **Хауга.**

## БРАТНЯЯ ЛЮБОЎ.

У вялікім горадзе на скрыжаваньні вуліц праймаюча заскрыгаталі тармазы аўтамашыны, паліцыянт уключыў чырвоныя вулічныя сігналы, спыніў рух і сам пасьпяшыў да аўта, перад якім ляжала акрываўленае малое цела хлапчыны. Хутка пачуліся сырэны санітарнага аўта і людзі, апраненыя ў белыя халаты, пасьпешна падабралі акрываўленага ды адвезьлі ў найбліжэйшую больніцу.

Хлапчына знайшоўся ў апэрацыйнай салі. Над ім сагнулася стурбаванае абліччa галоўнага хірурга. Асыстэнты з нямым пытаньнем глядзяць на гэтае абліччa. Той адказвае ім спакойна: «Так, яго яшчэ магчыма выратаваць, калі знойдзецца нехта, што дасьць яму зараз-жа крыху крыві». Асыстэнт выходзіць з салі ў канцылярыю, але на карыдоры яго пераймае нейкі юнак і адразу пытае:

— Ці выжыве паранены?

— Чаму цікавішся яго доляю?

— Дык гэта-ж мой малодшы брат.

— А, так! Але ён можа выжыць, калі знойдзецца нехта, што дасьць яму свае крыві.

— Калі я яму магу даць, дык хутка вазьмеце маю — адказаў усхваляваны юнак.

Спраўдзілі кроў юнака. Яна была зусім у парадку. Палажылі яго побач брата, адчынілі артэрыю і ягоная кроў пацякла ў братнія жылы. Па скончанай апэрацыі, пытаецца юнак:

— Ці цяпер брат будзе напэўна жыць?

— Так — адказаў упэўнена лекар.

— А я яшчэ ці доўга пажыву?

— Што ?— зьдзіўлена пытае лекар — ці ты думаеш, што маеш памерці?

— А як-жа я буду жыць, калі я аддаў сваю кроў?

— Дык нашто-ж ты даваў кроў, калі думаў, што пасьля гэтага памрэш?

— Як-жа я мог ня даць? Ён-жа мой малодшы брат!

Паводля **«Ст. Конрадсбшлят».**

## ГУЛЬНЯ ЛЁСУ.

У 1943 г. праз Баранавічы праязджаў нямецкі міністар Розэнбэрг. На час праезду усе вуліцы былі абстаўлены жандармамі і войскам. На Марыінскай вул. нямецкі падафіцэр злосна праганяў з вуліцы беларускага інтэлігэнта і копаў яго нагою пад дзікі рогат сваіх афіцэраў.

Мінула ад таго часу чатыры гады і якія зьмены адбыліся за гэты час! Аднаго дня ў вялікім заходня-эўрапэйскім горадзе двох нямецкіх палкоўнікаў і трох гэнэралаў, між якімі адзін быў у 1943 г. на Беларусі, віталі таго-ж інтэлігэнта і гэтым разам усе гуртам нізка яму кланяліся.

Ніхто ня ведае, што чакае яго заўтра.